● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

7 верасня 1996 г. субота, № 222 (23025)




# ЗВЯЗДА

**«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»**
**268-28-72 І 268-27-51**

## ХАЛАСЦЯКАМ ПРАДАСТАЎЛЯЕЦЦА ... ІНТЭРНАТ?

**Гэта гісторыя пачалася амаль шэсць гадоў таму, бо менавіта тады паступілі на працу ў Мазырскае навучальна-вытворчае прадпрыемства Беларускага таварыства інвалідаў па зроку Валер Самрдак, Уладзімір Цандэр і крыху пазней — Віктар КУДРАВЕЦ.**

Спачатку ім быў прадастаўлены звычайны барак пад знос, дзе хлопцы жылі да 1991 года. Потым сляпых перакінулі ў кватэру па вуліцы Няжнова без выдачы ордэра. А калі прадпрыемства пабудавала ў студзені 1993-га дом па вуліцы Першамайскай, то ўсіх траіх «запрасілі» туды. Здавалася б, звычайная трывіяльная бытавая гісторыя. Але ж усе шэсць гадоў гэтыя людзі стаялі ў чарзе на атрыманне ўласнай кватэры, такой неабходнай, асабліва калі ўлічваць іх фізічныя недахопы. Вось-вось, здавалася, і павінны былі атрымаць яны запаветныя ключы.

Адміністрацыя прадпрыемства думала інакш, таму і ўсяляліся ў дом па вуліцы Першамайскай у абход чаргі зусім іншыя людзі, якія нават не мелі адносінаў да таварыства інвалідаў па зроку. Так, напрыклад, атрымала жыллё дырэктар вучэбна-вытворчага прадпрыемства Дзікан, касір гэтай жа ўстановы Журавель, а пра хлопцаў усё не ўспаміналі. Тады яны вырашылі самі заявіць аб сваіх правах. Што тут пачалося! Іх пачалі перакідваць з аднаго паверха на другі, з кватэры ў кватэру. Нават дзверы ўзломвалі! У рэшце рэшт пасялілі на першым паверсе ў пакой, дзе павінны размясціць пяць чалавек (плошча пакоя яўна не трыццаць метраў, бо, як вядома, па заканадаўству ім павінны прадаставіць 6 квадратных метраў на чалавека). На ўсе звароты адказ адзін — халасцякам да 35 гадоў прадастаўляецца толькі інтэрнат. На пытанне ж: «А калі я ажанюся?», адміністрацыя адказвае: «Будзеце шукаць сабе жыллё самастойна». Вось гэта вырашэнне праблемы! Амаль саламонаўскае.

Цікава, а калі б спадарыню Дзікан так пашпурлялі, што б яна рабіла? З удзячнасцю прымала ўсе недарэчнасці лёсу?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## Акцыя «Выратаванне»: праграма па аздараўленню беларускіх дзяцей за мяжой, распачатая газетай «Звязда» і БДФ «Дзецям Чарнобыля», працягваецца

Пастаянныя чытачы «Звязды» ведаюць змест нашых зваротаў да самай шырокай грамадскасці краіны па лініі акцыі «Выратаванне». Атрымаўшы каля тысячы лістоў, БДФ «Дзецям Чарнобыля» і газета «Звязда» зрабілі ўсё магчымае, каб хоць некаторыя дзеці ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў, маючы ў тым надзвычайную патрэбу, адпачылі за мяжой. Як правіла, выбар выпаў на хлопчыкаў і дзяўчынак з вясковай глыбінкі. Яно і зразумела: з вёскі цяжэй дамагчыся нейкай падтрымкі.

Усяго за мяжу па лініі акцыі «Выратаванне» паехала 100 дзяцей. Пра тое, як і дзе яны адпачывалі, «Звязда» раскажа ў адным з бліжэйшых нумароў.

І яшчэ. Большасць лістоў прыйшло ў апошнія дні лета. Ніводная просьба не застанецца без адказу. БДФ «Дзецям Чарнобыля» абяцае аказаць многім аўтарам зваротаў матэрыяльную і медыцынскую дапамогу. І болей таго — адпраўка на аздараўленне будзе ажыццяўляцца на працягу ўсяго года. Пішыце нам! Будзьце з намі! Сачыце за старонкамі «Звязды»: акцыя «Выратаванне» распачата і працягваецца для кожнага з яе чытачоў і падпісчыкаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Работа скончана. Дахаты пара. Выхадныя...**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Прайшоўшы рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі быў насычаны мерапрыемствамі, якія выклікалі значны рэзананс у грамадстве. Дастаткова назваць толькі некаторыя: выступленне кіраўніка дзяржавы на сесіі Вярхоўнага Савета, сустрэча А. Р. Лукашэнкі з вялікай групай парламентарыяў Рэспублікі Беларусь, зносіны з удзельнікамі рэспубліканскага прафесарскага сходу, прадстаўнікамі першакурснікаў ВНУ рэспублікі, рэктарамі вышэйшых навучальных устаноў.

У рабочым графіку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі прадугледжаны шэраг мерапрыемстваў, якія маюць важнае значэнне для нашай краіны.

10 верасня кіраўнік дзяржавы правядзе рэспубліканскую нараду, на якой будуць разгледжаны асноўныя напрамкі сацыяльнага і эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года. У рабоце нарады прымуць удзел прэм'ер-міністр М. Чыгір, віцэ-прэм'еры, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, адказныя работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, дэпутаты Вярхоўнага Савета, вучоныя і спецыялісты.

Адбудзецца рабочая паездка Прэзідэнта ў горад Касцюковічы Магілёўскай вобласці, дзе ён прыме ўдзел у пуску Беларускага цэментнага завода. А. Лукашэнка правядзе нараду з кіраўнікамі, інжынерна-тэхнічнымі работнікамі завода, будаўнікамі.

Мяркуецца сустрэча Прэзідэнта з кіраўнікамі фірмы «Макдональдс», якія плануюць адкрыць некалькі сваіх прадпрыемстваў у г. Мінску да канца года.

Запланавана сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з медалістамі X Параалімпійскіх гульняў у Атланце.

А. Р. Лукашэнка прыме шэраг кіраўнікоў цэнтральных органаў кіравання, заслухае іх справаздачы аб выніках практычнай дзейнасці і выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы.

**Прэс-служба Прэзідэнта — БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## У ПУХАВІЦКІМ РАЁНЕ — ПАЖАРЫ: ГАРАЦЬ ЛЯСЫ, ПАБУДОВЫ, ЖЫВЁЛА

**Сёлетні канец лета аказаўся гарачым і на рэдкасць сухім. Мох, трава і сена ўспыхваюць ад самай нязначнай іскры і зноў, як тры гады назад, над лясамі і тарфянікамі Беларусі ўздымаецца шчыльнай сцяной едкае воблака дыму. Паветра ў многіх гарадскіх пасёлках і вёсках прапахла гарам. Людзі сталі панічна баяцца агню і шукаць у кожным пажары зламыснікаў.**

**А ЦІ БЫЎ ПАДПАЛЬШЧЫК?**

Два тыдні назад у пасёлку Рудзенск побач з шасцікватэрным драўляным домам згарэлі два хлявы і стог сена. Літаральна праз тыдзень побач у суседзяў загарэлася веранда. Прыбыўшая пажарная брыгада змагла своечасова патушыць агонь. На вуснах у людзей з'явілася страшнае слова «падпальшчык».

**Начальнік Рудзенскага аддзялення міліцыі Андрэй БЯРДЗЮГІН:**

— Па факту гэтых пажараў узбуджаны крымінальныя справы. Былі апытаны дзесяткі непаўналетніх і жыхары бліжэйшых дамоў. У мяне таксама выклікае трывогу тое, што пажары адбыліся амаль у адным месцы. Аднак гэта яшчэ не дае падстаў гаварыць пра тое, што пажары ўзніклі ў выніку зламыснага падпалу. Часцей за ўсё прычынай з'яўляецца неасцярожнасць у абыходжанні з агнём. Што ж адбылося на самай справе, пакажа следства.

**ТРАГЕДЫЯ Ў ПРАЎДЗІНСКУ**

У ноч на 5 верасня гэтага года на ўскраіне пасёлка Праўдзінск загарэліся хлявы. Прыбыўшыя праз 20 хвілін пажарныя ўбачылі страшную карціну: агонь бушаваў на плошчы ў 1,5 гектара, дзе гарэлі больш за сто хлявоў.

**Начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы Пухавіцкага раёна маёр Алег НОВІКАЎ:**

— Каля пасёлка Праўдзінска яшчэ ў 70-я гады яго жыхары самавольна захапілі зямлю, на якой потым пачалі будавацца. Хлявы былі пабудаваны ўпрытык адзін да аднаго, і самі гаспадары называлі сваё паселішча Шанхаем. У сувязі з гэтым інспектары дзяржаўнага пажарнага нагляду неаднаразова ўказвалі старшыні сельскага Савета Праўдзінска і дырэктару торфапрадпрыемства «Сяргеевічы», што, у выпадку ўзнікнення пажару ў адной з пабудоў, згараць усе.

Відавочцы сцвярджаюць, што пажар узнік у 23.50, але людзі не сталі званіць па 01, а кінуліся ратаваць сваю маёмасць. У выніку «Шанхай» сгарэў амаль датла. Разам з выкапанай бульбай і хатнімі рэчамі згарэлі свінні, куры, козы і нават адзін конь. Толькі нямногім прыватнікам удалося эвакуіраваць сваю жыўнасць.

Пухавіцкі гарнізон пажарнай службы дастойна змагаўся з агнём і не даў яму перакінуцца на іншыя пабудовы.

Усяго ж у гэтым годзе ў Пухавіцкім раёне адбыліся 122 пажары. За адзін толькі жнівень іх было 34. Гараць дамы, хлявы. Гараць лясы і тарфянікі. Здаецца, што гарыць сама зямля. Маёр Новікаў лічыць, што пажары ўзнікаюць з-за элементарнай неасцярожнасці ў абыходжанні з агнём.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*АДНЫМ СКАЗАМ*

☆ За сем месяцаў на долю **дзяржпрадпрыемстваў** прыпадала 68,9 працэнта агульнага аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі, **недзяржаўных** — 31,7, у тым ліку АТ —19,7, **арэндных прадпрыемстваў** — 5,7, **калектыўных** — 2,2 працэнта.

☆ На 1 ліпеня дэбіторская і крэдыторская **запазычанасць па народнай гаспадарцы** склала, адпаведна, 65,8 трыльёна і 82,7 трыльёна рублёў пры агульным аб'ёме рэалізацыі прадукцыі на суму 79 трыльёнаў рублёў.

☆ Па прапанове карэйскай фірмы «Дэу», магчыма, у хуткім часе **ў Магілёве** будуць выпускаць **легкавыя аўтамабілі**.

☆ У рэспубліцы ўжо **ўстаноўлена 60 тысяч прыбораў** уліку газу, з іх 20 тысяч бясплатна, для нізкааплатных катэгорый насельніцтва ў сельскай мясцовасці.

☆ Міністэрства шляхоў зносінаў Расіі прапанавала беларускай чыгунцы **скараціць рэйсы на Маскву**, аднак пакуль прапанова расійскага боку не прынята.

☆ Па стану на 5 верасня ў рэспубліцы ўзніклі 3492 пажары на плошчы 4706,3 гектара: **затраты на ліквідацыю** пажараў у лясах і на тарфяніках з мая бягучага года склалі **каля 8 з паловай мільярдаў рублёў**.

☆ У мінулым годзе больш як дзве тысячы жанчын і мужчын у рэспубліцы **пазбаўлены бацькоўства**.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## БУДЗЕМ МЕЦЬ ДВА РЭФЕРЭНДУМЫ І ДВА ПРАЕКТЫ КАНСТЫТУЦЫІ

### Рэферэндум назначаны на 24 лістапада, разам з давыбарамі ў мясцовыя і Вярхоўны Савет

**6 верасня дэпутаты Вярхоўнага Савета разам з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам прыступілі да абмеркавання пытання «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню». Сваю ініцыятыву адносна рэферэндуму растлумачыў Аляксандр Лукашэнка, а пазней лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін прадставіў пункт погляду 84 дэпутатаў, якія падпісаліся за правядзенне альтэрнатыўнага рэферэндуму па трох пунктах, адзін з якіх — прапанова прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, у якой адсутнічае пасада прэзідэнта як такая.**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА** ў сваім выступленні перад дэпутатамі зрабіў некалькі заяў адносна таго, што Беларусь паступова пачынае выходзіць з эканамічнага крызісу, што павышаюцца рэальныя даходы насельніцтва і людзі сталі больш купляць. Узровень беспрацоўя, паводле слоў Лукашэнкі, застаецца нізкім — 3,8 працэнта. Аднак на гэтым фоне, паводле меркавання Прэзідэнта, вярхушка Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйны суд сталі «асноўнай перашкодай на шляху грамадска-эканамічнага развіцця краіны». Таму, на думку Прэзідэнта, далей немагчыма без канстытуцыйнай рэформы ў дзяржаве, без расшырэння паўнамоцтваў Прэзідэнта да ўзроўню яго адказнасці за сітуацыю ў краіне.

Далей Аляксандр Лукашэнка спыніўся на канкрэтных момантах прапанаванага ім праекта Канстытуцыі, які ўжо друкаваўся ў СМІ, і выказаў свае адносіны да іншых трох пунктаў, прапанаваных ім на рэферэндум: аб свабоднай куплі-продажы зямлі, аб адносінах да праблемы смяротнага пакарання і аб пераносе святкавання нацыянальнага свята з 27 на 3 ліпеня. Прэзідэнт зазначыў, што ён чакае ад Вярхоўнага Савета карэктных рашэнняў і ні ў якім разе сам ён не паддасца на правакацыйныя заявы і не будзе прымаць жорсткіх мераў у адносінах да парламента.

Вельмі бурна прайшлі адказы Аляксандра Лукашэнкі на пытанні дэпутатаў. У прыватнасці, прагучала некалькі і непрыемных для Прэзідэнта пытанняў. **Сямён ДОМАШ** выказаў прэтэнзію, што ягоныя тэлефонныя перагаворы тайна запісваліся, і іх праслухоўваў сам Прэзідэнт разам з А. Дубко. «Я клянуся дзецьмі, што ніколі размоў Домаша не слухаў і не абмяркоўваў», — зазначыў на гэта Аляксандр Лукашэнка. Сямён Домаш таксама заявіў, што саветнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў, калі жыў у Гродне, незаконным чынам атрымаў крэдыт на будаўніцтва жылога дома, а таксама меў нейкія парушэнні падчас вайсковай службы ва Усходняй Германіі. Аляксандр Лукашэнка на гэта зазначыў, што чуе ён гэта ўпершыню, але калі гэтая інфармацыя пацвердзіцца, то Посахаў будзе звольнены. Разам з тым Лукашэнка паўшчуваў Домаша наконт таго, што падчас верагодных махінацый Посахава Домаш працаваў у Гродне не апошнім чыноўнікам...

**Дэпутат БАНЬ** выказаў цікавасць сваіх выбаршчыкаў, колькі будзе каштаваць прапанаваны Прэзідэнтам рэферэндум. На гэта Лукашэнка заўважыў: «Ні капейкі з бюджэту не вазьму. Ужо падрыхтаваны мой зварот да дзяржаўных устаноў, выбарчых участковых камісій з просьбай правесці рэферэндум бясплатна. Ёсць прапановы працоўных калектываў унесці па 2-3 мільёны на правядзенне рэферэндуму». Вельмі важнае пытанне задаў **Сяргей КАЛЯКІН**, які зазначыў, што Прэзідэнт прапаноўвае вынесены ім праект Канстытуцыі абмяркоўваць у працоўных калектывах і сродках масавай інфармацыі і абяцае вынесці на рэферэндум нейкі іншы, канчатковы варыянт. Атрымліваецца, што Вярхоўны Савет вымушаны прымаць «ката ў мяшку», бо пакуль не прадстаўлены той варыянт, за які людзі павінны будуць галасаваць. На гэта Аляксандр Лукашэнка зазначыў, што не парламент упаўнаважаны ставіць пытанні да рэферэндуму, ён павінен толькі прызначыць дату.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА** вылучыў ідэю перавыбрання пасля верагоднага прыняцця новай Канстытуцыі як парламента, так і Прэзідэнта. На гэта Аляксандр Лукашэнка зазначыў: «Чытайце апошні раздзел Канстытуцыі. Не будзе перавыбараў». Гэтую тэму ён працягнуў і адказваючы на пытанні дэпутата Валерыя Новака, які пацікавіўся, чаму прапаноўваецца без выбараў прадоўжыць тэрмін паўнамоцтваў Прэзідэнта яшчэ на два гады.

— Не хвалюйцеся з тэрмінам прэзідэнцтва Лукашэнкі. Я буду Прэзідэнтам 12 гадоў! На рэферэндуме я выношу на суд народа і персону Лукашэнкі. Непадтрыманне майго праекта Канстытуцыі вы ведаеце да чаго прывядзе... — заявіў А. Лукашэнка.

Дэпутат **Вольга АБРАМАВА** заявіла, што лепей прапанаваны рэферэндум праводзіць 5 снежня, у дзень прыняцця сталінскай Канстытуцыі СССР, бо, на яе погляд, Канстытуцыя, вынесеная Аляксандрам Лукашэнкам, вельмі нагадвае тую. Вольга Абрамава заявіла, што яна гатова даказаць гэта, а таксама тое, што прапанаваны праект уяўляе сабой новую версію дзяржаўнага

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ «ЗВЯЗДЫ»

# Заставайцеся з намі, сябры!

**Латарэя «Звязды», Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання і РА «Белпошта»**

Прызнаемся, не чакалі такога шквалу званкоў пасля публікацыі ва ўчарашнім нумары «Звязды» (6 верасня) звароту рэдакцыі да падпісчыкаў газеты з прапановай прыняць удзел у розыгрышы латарэі. Яшчэ раз мы пераканаліся, што ў калектыву рэдакцыі ёсць з вамі ўзаемаразуменне. Радуе, што вы неабыякавыя да лёсу адзінай штодзённай беларускамоўнай газеты. Зразумела, чым больш сяброў-падпісчыкаў будзе ў «Звязды», тым больш ёсць магчымасцей з вашай дапамогай, падтрымкай і ўдзелам рабіць нашу газету яшчэ больш цікавай, а самае галоўнае — патрэбнай кожнаму чалавеку, які імкнецца да дабрабыту сваёй сям'і, а значыць, і ўсёй Беларусі.

Мяркуючы па званках шматлікіх падпісчыкаў нашай газеты, трэба яшчэ раз удакладніць умовы латарэі-конкурсу.

**ПА-ПЕРШАЕ, яе ўдзельнікамі могуць стаць толькі чытачы газеты, якія падпісаліся на «Звязду» на IV квартал бягучага года. Вядома, што ёсць і тыя, хто выпісаў «Звязду» на ўсё другое паўгоддзе (на трэці і чацвёрты квартал адразу) 1996 года. Яны, безумоўна, таксама маюць поўнае права ўдзельнічаць у розыгрышы.**

**ПА-ДРУГОЕ,** выразаная па пункцірнай лініі **спецыяльная паштоўка «Звязды»,** у якой указаны прозвішча і хатні адрас падпісчыка газеты, **адпраўляецца ў рэдакцыю без канверта** (дастаўка яе аплачана па дамоўленасці з РА «Белпошта») **да 25 верасня (уключна).**

**ПА-ТРЭЦЯЕ, разглядацца будуць паштоўкі, якія паступілі ў рэдакцыю да 30 верасня,** — да дня, калі адбудзецца розыгрыш латарэі з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, РА «Мінская пошта», а таксама назіральнага савета, які будзе створаны з падпісчыкаў «Звязды».

**ПА-ЧАЦВЁРТАЕ, призы будуць уручацца толькі тым пераможцам розыгрышу латарэі, хто мае аплачаны падпісны абанемент на IV квартал ці на ўсё другое паўгоддзе 1996 года, і толькі па запрашэнню рэдакцыі.**

**Напамінаем, што РАЗЫГРЫВАЮЦЦА:**

гадзіннікі з эмблемай «Звязды», тэлевізары пераносныя, аўтамагнітолы, касметыка, свяцільнікі, фотаапараты, тэлефонныя апараты, радыёпрыёмнікі, наборы посуду, прасы, дывановыя вырабы, турыстычныя пуцёўкі, электрапомпы, веласіпеды і іншыя тавары для дома.

**Але самы галоўны наш прыз — высокаўдойная КАРОВА.**

Хтосьці, магчыма, прыняў гэта за «звяздоўскі» жарт, але, паверце, гэта сур'ёзна і сапраўды так.

Таму калі вы, шаноўныя чытачы сённяшняга нумара нашай газеты, яшчэ не падпісаліся на «Звязду», раім неадкладна зайсці ў паштовае аддзяленне і выпісаць «Звязду» на IV квартал. І толькі тады, калі зробіце гэта, а затым дашляце выразаную з газеты картку, вы зможаце стаць удзельнікам розыгрышу латарэі, а значыць, і ўладальнікам каштоўнага прыза.

**Выпісвайце! Чытайце! Удзельнічайце! Выйгравайце!**

**А самае галоўнае — ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!**

**«Звязда»** — гэта самая свежая, самая патрэбная, самая цікавая і самая карысная інфармацыя.

Падпісная цана на «Звязду» на квартал самая нізкая сярод беларускіх штодзённых газет — 40.800 рублёў.

**Эканомце свой час і грошы!**
**Выпісвайце «Звязду»!**

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 6 верасня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 5400 | 5460 | | | | | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 16900 | | 11300 | | 3.15 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 17000 | 17600 | 11300 | 11700 | 3.05 | 3.15 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 17261 5400 | 17650 5550 | 11526 | 11983 | 3.15 | 3.27 | 331-917 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 17500 | 17800 | 11400 | 11800 | 3.18 | 3.25 | 342-012 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | | | | | | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5353 | | 3616.65 | | 100 бел. р. 28.20 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

## ПАСТАНОВЫ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ СУПРАЦОЎНІКАЎ КАМІТЭТА ПА НАГЛЯДУ ЗА БЯСПЕЧНЫМ ВЯДЗЕННЕМ РАБОТ У ПРАМЫСЛОВАСЦІ І АТАМНАЙ ЭНЕРГЕТЫЦЫ ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь п**астанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу ў галіне нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы ўзнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Галкоўскага** Васіля Міхайлавіча — намесніка старшыні Камітэта.

**Яцэвіч**а Уладзіміра Іванавіча — старшыню Камітэта — намесніка міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

4 верасня 1996 г., г. Мінск, № 556-XIII.

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ СЕЛЯМЕНЕВА В. Д. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую дзейнасць па развіццю і ўдасканаленню архіўнай справы ўзнагародзіць дырэктара Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь **Селяменева** Вячаслава Дзмітрыевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

4 верасня 1996 г., г. Мінск, № 558-XIII.

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ САКАЛОЎСКАГА Р. В. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За плённую творчую дзейнасць у галіне беларускай ваеннай журналістыкі ўзнагародзіць галоўнага рэдактара газеты «Во славу Родины» **Сакалоўскага** Рыгора Васільевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

4 верасня 1996 г., г. Мінск,№ 557-XIII.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ ВЫБРАННІ СТАРШЫНІ ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Выбраць старшынёй Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **Ганчара** Віктара Іосіфавіча.
2. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

5 верасня 1996 г., г. Мінск, № 577-XIII.

## БУДЗЕМ МЕЦЬ ДВА РЭФЕРЭНДУМЫ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

ўпарадкавання краіны, што ён поўны недакладнасцей у прамым тэлеэфіры. Лукашэнка, адказваючы на гэта, прапанаваў ёй выкарыстоўваць незалежныя сродкі масавай інфармацыі і выступаць у сваёй выбарчай акрузе. Дарэчы, тэма свабоды сродкаў масавай інфармацыі, раўнапраўнага асвятлення радыё і тэлебачаннем дзейнасці ўсіх галін улады гучала неаднаразова падчас учарашняга пленарнага пасяджэння Вярхоўнага Савета. Больш таго, неаднаразова заяўлялася, што неабходна прыцягнуць да крымінальнай адказнасці кіраўніцтва Белдзяржтэлерадыёкампаніі, якое адмовілася выконваць пастанову Вярхоўнага Савета аб прамым эфіры ў час абмеркавання пытання аб рэферэндуме. Тэлебачанне і радыё трансліравалі толькі выступленне Аляксандра Лукашэнкі і яго адказы на пытанні, а не выступленні дэпутатаў, якія пачаліся пасля перапынку.

Некаторыя дэпутаты задавалі і даволі мяккія пытанні. Дэпутата **Глухоўскага** цікавіў механізм пераходу цяперашніх парламентарыяў у сенат ці палату прадстаўнікоў. Дэпутат **Красуцкі** прапанаваў дапоўніць прэзідэнцкія пытанні на рэферэндум пунктам аб адносінах беларусаў да пашырэння НАТО на Усход. Дэпутат **Карпіевіч** пацікавіўся, як ацэньвае Аляксандр Лукашэнка сітуацыю ў рэспубліцы, ці падтрымліваюць яго людзі?

— Я прайграць рэферэндум не хачу і не прайграю. Я валодаю сітуацыяй у краіне, — адказаў кіраўнік дзяржавы.

Пасля перапынку Аляксандр Лукашэнка пакінуў Авальную залу Вярхоўнага Савета. У сувязі з гэтым віцэ-спікер Васіль Новікаў выказаў шкадаванне, што, маўляў, у Аляксандра Лукашэнкі знайшліся больш важныя справы, чым усенародны рэферэндум, ініцыіраваны ім самім. Васіль **Новікаў** прадставіў меркаванне Прэзідыума Вярхоўнага Савета па разглядаемай праблеме. У прыватнасці, ён зазначыў, што ў мэтах эканоміі сродкаў Прэзідыум прапануе правесці рэферэндум 24 лістапада г. г., сумясціўшы яго з давыбарамі ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы. Гэта дасць эканомію каля 15 мільярдаў рублёў. Акрамя таго, патрэбен час, каб абмеркаваць два прапанаваныя праекты Канстытуцыі з дапаўненнямі і змяненнямі. Абодва праекты, на думку Новікава, трэба таксама падвергнуць міжнароднай прававой экспертызе. А вось па трох астатніх пытаннях, прапанаваных Прэзідэнтам, Вярхоўны Савет не мае права ўмешвацца, але мог бы правесці парламенцкія слуханні, зазначыў Васіль Новікаў. Прэзідыум Вярхоўнага Савета вуснамі Васіля Новікава выказаў спадзяванне на тое, што Прэзідэнт дасць каманду зняць інфармацыйную блакаду вакол Вярхоўнага Савета.

У спрэчкі па гэтаму пытанню запісалася 29 чалавек, прычым па рэгламенту кожны мае 10 хвілін для выступлення па рэгламенту. Але іх усіх апярэдзіў Сяргей Калякін, які выказаў думку 84 парламентарыяў, у адпаведнасці з якой праект Аляксандра Лукашэнкі ставіць кропку ў ліквідацыі Савецкай улады ў Беларусі. «Змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю распрацоўваліся пад А. Лукашэнку, але імператарскія паўнамоцтвы могуць дастацца і другому», — заявіў Сяргей **Калякін**. У прапанаваным ім і яго калегамі праекце Канстытуцыі прадугледжваецца ліквідацыя інстытута прэзідэнцтва «як крыніцы нестабільнасці ў нашай дзяржаве». А выканаўчая ўлада павінна стаць падкантрольнай народу. Мясцовае самакіраванне атрымлівае большыя паўнамоцтвы. Грамадства становіцца гуманітарным— такую ацэнку зрабіў Сяргей Калякін альтэрнатыўнаму варыянту праекта Канстытуцыі.

Згодна з праектам Канстытуцыі, прапанаваным фракцыяй камуністаў і аграрыяў Вярхоўнага Савета, пасада прэзідэнта ў Беларусі ліквідуецца, урад фарміруецца Вярхоўным Саветам і падсправаздачны яму. Фактычна прапануецца вярнуць Беларусь да статусу парламенцкай рэспублікі. Старшыня Вярхоўнага Савета паводле гэтага праекта з'яўляецца вышэйшай службовай асобай краіны. Мае шырокія паўнамоцтвы. У гэтым праекце прадугледжваецца захаваць існуючы статус Канстытуцыйнага суда. Прапаноўваецца таксама беларускую і рускую мовы лічыць афіцыйнымі мовамі нашай краіны.

Акрамя таго Сяргей Калякін заявіў, што 84 дэпутаты прапануюць вынесці яшчэ 2 пытанні на агульнанародны рэферэндум: ці выступаеце вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі; ці згодны вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца публічна і толькі з дзяржаўнага бюджэту? Такім чынам, хутчэй за ўсё, нас чакаюць два варыянты Канстытуцыі і пяць іншых пытанняў на ўсенародным рэферэндуме.

Пачатак спрэчак па абмяркоўваемаму пытанню быў яўна антыпрэзідэнцкі. Валерый Новак заявіў, што, на яго думку, у арт. 144 прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі закладзена міна запаволенага дзеяння: гэты праект дазваляе А. Лукашэнку без перавыбрання працягнуць тэрмін свайго ўладарання яшчэ на 5 гадоў. Ён таксама палічыў несправядлівым тое, што, паводле прапанаванага А. Лукашэнкам праекта, у выпадку грубага або сістэматычнага парушэння парламентам Канстытуцыі ён можа быць распушчаны, а для Прэзідэнта такая мера адказнасці не прадугледжана.

Цэлы шэраг ініцыятыў вылучыў лідэр фракцыі «Саюз працы» Леанід Сечка. Ён прапанаваў прыняць тры прэзідэнцкія пункты рэферэндуму апроч канстытуцыйнага, а апошні прыняць на працягу месяца пасля яго афіцыйнага паступлення ў парламент. Гэта павінна зняць прэсінг з Вярхоўнага Савета. Ён негатыўна выказаўся наконт прэзідэнцкай ідэі правесці Усебеларускі сход, якому могуць быць прыпісаны нейкія заканадаўчыя функцыі, і прапанаваў сабраць з'езд дэпутатаў Саветаў усіх узроўняў Беларусі для абмеркавання праблем праекта Канстытуцыі і іншых.

Генадзь Карпенка абверг практычна ўсе заявы Аляксандра Лукашэнкі аб паляпшэнні эканамічнай сітуацыі ў краіне, павелічэнні ўнутранага валавога прадукту і тэмпаў эканамічнага росту, ажыўленні знешнегандлёвай дзейнасці і г. д. Паводле лічбаў, якія прывёў Генадзь Карпенка, усе гэтыя паказчыкі за 1994—95 гады значна пагоршыліся. «Я лічу гэты рэферэндум яўнай спробай завуаліраваць эканамічны правал у палітыцы Прэзідэнта і прадоўжыць тэрмін свайго панавання ў краіне без канкрэтных эканамічных вынікаў».

Вечарам абмеркаванне працягвалася. Было яшчэ запісана шмат жадаючых паўдзельнічаць у спрэчках, аднак дэпутаты знайшлі кансенсус і вырашылі перш за ўсё прыняць пастанову «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» згодна з праектам, прапанаваным Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і некалькімі пастаяннымі камісіямі. Пры прыняцці гэтай пастановы найбольшыя спрэчкі выклікаў пункт аб даце галасавання. Як вядома, Прэзідэнт прапаноўваў правесці рэферэндум 7-га лістапада, дэпутат У. Нісцюк — 12 студзеня, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета выказаўся за сумяшчэнне даты давыбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы — на 24 лістапада. Галасаванне паказала— большасць падтрымала апошнюю дату. За яе выступіла 100 дэпутатаў, супраць — 22, рэшта ўстрымалася. 105 дэпутатаў прагаласавала за пастанову ў цэлым.

Такім чынам, на рэспубліканскім рэферэндуме будзе сем пытанняў. Два з іх уяўляюць праекты Канстытуцыі: прэзідэнцкі і фракцый камуністаў і аграрыяў Вярхоўнага Савета. Акрамя таго ў бюлетэнь для рэферэндуму будуць уключаны пытанні аб пераносе Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў; аб адносінах грамадзян да свабоднай, без абмежаванняў, куплі-продажу зямлі, аб падтрымцы выбаршчыкамі адмены смяротнага пакарання, аб выбарах кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады непасрэдна жыхарамі адпаведных адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак і аб фінансаванні ўсіх галін улады толькі з дзяржаўнага бюджэту. Чатыры пункты выносяцца на абавязковы рэферэндум: аб Дні незалежнасці, аб варыянтах праекта Канстытуцыі і аб выбарах кіраўнікоў мясцовай улады. Пытанні аб продажы зямлі, адмене смяротнага пакарання і бюджэтным фінансаванні галін улады выносяцца на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога будуць мець рэкамендацыйны характар. Згодна з пастановай, да 24 кастрычніка г.г. будуць утвораны гарадскія, раённыя камісіі па рэферэндуму. Органам улады дадзены даручэнні забяспечыць гарантыі свабоднага волевыяўлення грамадзян, захаванасці законнасці і правапарадку, а таксама вырашыць пытанні фінансавага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння рэферэндуму. Сродкам масавай інфармацыі рэкамендавана ўсебаковае і аб'ектыўнае растлумачэнне пытанняў, якія выносяцца на рэспубліканскі рэферэндум.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГУ лепш за ўсё змяніць месца працы, інакш, застаўшыся на ранейшай, ён зусім выб'ецца з сіл. Але калі вы адчуваеце сябе ў форме і не выкарыстаеце гэтую параду, то ў вас ёсць шанц атрымаць у хуткім часе такую прапанову, якая карэнным чынам зменіць усё ваша жыццё.

ВАДАЛЕЯ чакае паездка за мяжу для ўдзелу ў сумесным дзелавым праекце. Дзяржслужачым выпадзе перавод на вышэйстаячую пасаду. Прадстаўніцам цудоўнага полу можна будзе крыху адпачыць ад штодзённых клопатаў. Зоркі спрыяюць вашым рамантычным захапленням, у якіх намеціцца доўгачаканая пэўнасць.

РЫБЫ апынуцца ў гушчы падзей. Вам давядзецца займацца пашырэннем бізнесу, укладаннем грошай і, магчыма, паехаць за мяжу, дзе знойдзеце новае поле дзейнасці. Планеты спрыяюць заняткам хатнімі справамі. Наперадзе радасныя падзеі, звязаныя з нараджэннем ці шлюбам у сям'і вашых родных.

АВЕНЫ нечакана атрымаюць значную суму грошай. Бізнесменам паступяць заманлівыя дзелавыя прапановы, у тым ліку з-за мяжы. А дзяржслужачым можна будзе паспачуваць — на іх ускладуць дадатковыя абавязкі. У тых, хто знаходзіцца ў шлюбе сем гадоў і не мае дзяцей, па прагнозах зорак, народзіцца нашчадак.

ЦЯЛЬЦАМ прыйдзецца пачакаць з замежным турнэ з-за з'яўлення тэрміновай работы. У адносінах з дзелавым партнёрам ці важным кліентам з'явіцца невялікая трэшчына. Не губляйце цярпення і самавалодання. Ад гэтага будзе залежаць у далейшым ваша стабільнае становішча на службе і ў бізнесе.

БЛІЗНЯТЫ атрымаюць задавальненне ад працы. Не кідайце пачатае на палове дарогі, інакш не атрымаеце новых выгадных дзелавых прапаноў. У вашым асабістым жыцці наступяць спрыяльныя перамены і з'явіцца магчымасць правесці цудоўныя вечары з дарагім сэрцу чалавекам.

РАКАМ не трэба праяўляць паспешлівасць, а варта дачакацца цікавых прапаноў ці цэннай для сябе інфармацыі ў дзелавой дзейнасці. Вам час пайсці на сур'ёзныя новаўвядзенні. Прадпрымальнікі падпішуць прэстыжны кантракт, а дзяржслужачым спатрэбяцца такт і талент дыпламатаў для паспяховай работы.

ІЛЬВЫ сутыкнуцца з надзвычайнымі абставінамі, якія зменяць ваш жыццёвы распарадак. У дзелавых аперацыях магчымы невялікі спад. Затое тыя, хто знаходзяцца на дзяржслужбе, атрымаюць павышэнне і прыбаўку да зарплаты. Юрысты і палітыкі апынуцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі.

ДЗЕВЫ паедуць у кароткае падарожжа на поўдзень ці паўднёвы ўсход. Пакуль адны будуць адпачываць, другім прыйдзецца працаваць на поўную сілу. Гэта датычыцца ваеннаслужачых, якіх павысяць у званні і дадуць новае заданне. У бізнесменаў чакаецца вельмі кіпучы перыяд, шмат работы і задавальненне ад уласных здзяйсненняў.

ШАЛЯМ прыйдзе ў галаву свежая ідэя, рэалізацыя якой паслужыць пашырэнню бізнесу і атрыманню вялікіх даходаў. Поспех у любых пачынаннях гарантаваны. У хатніх справах на нейкі перыяд усталюецца цішыня. Асабістае жыццё таксама не абяцае нічога цікавага.

СКАРПІЁН можа пачынаць выконваць новы дзелавы праект. Раней пачняце — хутчэй атрымаеце неблагія дывідэнды. У новы ўласны дом уедуць тыя, хто да гэтага бадзяўся па чужых кутках. Блізкі сваяк, якому вы дапамагалі матэрыяльна, здабудзе поспех і незалежнасць. Таму можна будзе ўздыхнуць з палёгкай.

СТРАЛЕЦ не павінен залежаць ад падначаленых, якія абавязкова наблытаюць і зробяць усё не так. Дзейнічайце самі, і ўсё ў вас складзецца выдатна. Датэрміновае выкананне работы абернецца прэміяй, прыбаўкай да зарплаты ці ростам даходаў. Затое ў асабістым жыцці не будзе пастаянства — новыя сустрэчы могуць аслабіць старыя сувязі.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**
*Дэлі.*

Прафсаюз авіяцыйных дыспетчараў Беларусі прайшоў перарэгістрацыю ў Мінюсце РБ і зарэгістраваны пад новай назвай: Беларускі прафсаюз авіяцыйных дыспетчараў (БПАД) 03.06.96 г. за № 037.

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, часам дажджы, месцамі моцныя. Тэмпература паветра ў Гродне — 13—15, Брэсце — 14—16, Мінску — 15—17, Гомелі — 16—18, Магілёве, Віцебску — 17—19 градусаў.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам дождж. Тэмпература ўначы — 7—12, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

# КВАТЭРЫ БУДУЕМ САМІ...

**МОЖНА доўга дыскусіраваць з нагоды таго, што жыллё ўсім маючым патрэбу ў ім давядзецца купляць за свае кроўныя, заробленыя грошы. Рэчаіснасць, на жаль, ад гэтага не зменіцца. Адзінае, што можна і трэба зрабіць у самы бліжэйшы час — гэта распрацаваць канцэпцыю набыцця жылля, даступнага сярэднім па дастатку слаям насельніцтва. Менавіта сярэднім, паколькі багатыя паклапоцяцца пра сябе самі, а маламаёмным і льготнікам будзе прадастаўляцца дзяржавай жыллё муніцыпальнае.**

Свой варыянт вырашэння жыллёвага пытання прапанаваў і на справе даказаў яго жывучасць вытворчы канцэрн «Мінскбуд» — ініцыятар новай методыкі ўдзелу грамадзян у будаўніцтве ўласных кватэр на доўгачасовай аснове.

— Ужо заселены першы дом па вул. Філімонава, кватэры ў якім атрымалі, у тым ліку нашы заказчыкі, менавіта шляхам пакупкі ў канцэрна неабходнай колькасці мінімальных частак кватэр, кожная з якіх складае 0,1 кв. м іх агульнай плошчы, — расказвае прэзідэнт вытворчага канцэрна «Мінскбуд» Валерый Чычурын. — Растлумачу. Калі агульная плошча аднапакаёвай кватэры складае 44,6 кв. м, дык колькасць мінімальных частак у ёй будзе, адпаведна, 446. Кошт такой мінімальнай часткі на сённяшні дзень складае 410 тысяч рублёў. Яна доўгі час не змяняецца. Купіўшы адразу адзін квадратны метр жылля, ці 10 мінімальных частак кватэры, заказчык потым можа ў залежнасці ад сваіх фінансавых магчымасцей набываць астатнія часткі на працягу не больш як 10 гадоў. Пры пакупцы 80 працэнтаў мінімальных частак кватэры кліент мае права замацавання за ім канкрэтнай кватэры, якая задавальняе яго па ўсіх параметрах: плошча, планіроўка, паверх, аддзелка і г.д. Тут трэба адразу адзначыць, што купленыя мінімальныя часткі кватэры не мяняюцца ў цане — індэксацыя кошту аднаго квадратнага метра жылля не праводзіцца. Гэтыя ўмовы ёсць у райвыканкомах, у нашых арганізацыях і ў канцэрне.

Перад чалавекам, які ведае цану кожнаму заробленаму рублю, могуць узнікнуць сумненні: «А ці варта верыць канцэрну? Ці не здарыцца з маімі грашыма тое, што і з укладамі грамадзян у кампаніі тыпу «МММ»? Трывога зразумелая і зусім абгрунтаваная: у свеце, дзе часцей спраўляюць баль вялікія грошы і махляры, лёгка памыліцца.

У гэтым канкрэтным выпадку паўнамоцтвы ВК «Мінскбуд» пацвярджае Мінгарвыканком: на спецыяльным пасведчанні ёсць подпіс і пячатка канцэрна і яго гаранта — выканкома.

На сённяшні дзень 206 чалавек заключылі дагаворы з ВК «Мінскбуд», за дваццацю пяццю з іх ужо замацаваны канкрэтныя кватэры. На гэтыя сродкі пабудаваны кватэры ў доме па вул. Філімонава, будуюцца ва Уруччы і Малінаўцы. Распрацоўваецца праектная дакументацыя на будаўніцтва яшчэ некалькіх дамоў — у Серабранцы, на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Бельскага (побач з метро), у раёне вул. Козыраўскай.

Некаторыя тыповыя праекты жылых дамоў адпрацоўваюцца з улікам г. зн. пад заказ тых кліентаў, якія звяртаюцца ў канцэрн. Ужо на жылым доме па вул. Філімонава былі ўнесены некаторыя змяненні, якія вельмі спадабаліся навасёлам, — новая планіроўка кватэр, зашклёныя лоджыі, вялікія кухні з выхадам на лоджыю.

— Нашы спецыялісты, якія прымалі ўдзел у распрацоўцы праграмы будаўніцтва жылля на даўгачаснай долевай аснове, пастараліся залажыць у кошт квадратнага метра толькі рэальныя затраты на яго будаўніцтва, — расказвае Валерый Фёдаравіч. — Значна зніжаны кошт жылля пасля вядомага ўсім указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у якім да мінімуму зменшаны падаткі. Аднак па-ранейшаму большая частка сродкаў ідзе на набыццё будматэрыялаў, цэны на якія ўстанаўліваюцца не намі. Адно з выйсцяў у такіх абставінах — здача аб'ектаў без унутранай аддзелкі. Зэканоміўшы на накладных расходах, падабраўшы неабходныя і адпаведныя магчымасцям аддзелачныя матэрыялы, прыклаўшы пэўныя фізічныя намаганні і фантазію, нашы заказчыкі могуць эканоміць каля 10—15 працэнтаў сваіх сродкаў на кожным квадратным метры, што ў цэлым абернецца добрай эканоміяй у маштабах усёй кватэры. Кожнаму жадаючаму заказчыку дапамогуць выканаць работы і нашы спецыялісты.

Клопат канцэрна аб яго заказчыках прыемны, ён вельмі дарэчы, але апошнія, атрымліваючы зарплату невялікую і часам несвоечасова, могуць расцягнуць працэс пакупкі кватэры на шмат гадоў. А хочацца хутчэй. Як быць? Звернемся па параду да навасёлаў.

— Аднапакаёвую кватэру будавалі ўсёй грамадой: самі, дапамагалі бацькі, — расказвае Вольга Козел. — Вынікамі вельмі задаволены.

— А мы прадалі старую, цесную і надакучыўшую і купілі новую 3-пакаёвую — прасторную і светлую, — дзеліцца вопытам муж Інэсы Прышчэпы.

Пасільную дапамогу сем'ям, якія адсталі ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў у выканкомах шмат гадоў, але так і не паспелі атрымаць кватэру, аказвае дзяржава, прадастаўляючы субсідыі. Варта спадзявацца, што эканоміка рэспублікі стабілізуецца, з'явіцца магчымасць у любога чалавека атрымаць крэдыты ў банку пад будаўніцтва жылля. Умела распарадзіцца атрыманымі сродкамі — гэта значыць даверыць іх надзейнай будаўнічай арганізацыі.

**Наталля ХАЦКЕВІЧ.**

# У ПОШУКУ ГАНДЛЁВАЙ ПРАЎДЫ

**Атрымаць у Міністэрстве гандлю звесткі аб няякасных таварах айчыннай вытворчасці аказалася справай не з лёгкіх. Давялося звярнуцца па дапамогу туды, дзе праблема якасці тавараў з'яўляецца амаль што галоўнай. А менавіта — у мінскую краму «Тэхніка ў быце». Гутарка з дырэктарам Зінаідай Паўлаўнай Качан нечакана атрымалася багатай на цікавую інфармацыю не толькі аб заводах-бракаробах, але і аб праблемах галіны ўвогуле — такіх, як якасць вырабаў, гарантыйны і паслягарантыйны рамонт, забеспячэнне абароны правоў пакупнікоў і г. д.**

— МЫ МОЖАМ пераадолець многія праблемы, за выключэннем толькі тых, якія знаходзяцца не ў сферы нашай увагі і дзеля вырашэння якіх неабходна ўзаемадзейнічаць з многімі структурамі, — пачала размову Зінаіда Паўлаўна.

**— І якія праблемы вы маеце на ўвазе?**

— Пачынаючы з таваравытворцаў, сервісных службаў горада (і не толькі) і заканчваючы міністэрствам гандлю, упраўленнем бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Закон «Аб абароне правоў спажыўца» — несумненна, патрэбны закон, але і дастаткова жорсткі. Калі ўсе будуць яго поўнасцю прытрымлівацца, то сур'ёзных канфліктаў, безумоўна, можна пазбегнуць. Але як дабіцца выканання закона ад прадпрыемстваў, якія, калі яшчэ і не ўсе банкруты, то няўмольна набліжаюцца да гэтай рысы.

**— Такім чынам, паміж молатам і кавадлам, паміж спажыўцом (плюс таварыства аховы нашых правоў) і законам вы пакуль знаходзіцеся ў гордай адзіноце.**

— Прывяду такі прыклад. Пакупніца з пральнай машынай «Расінка», якая выйшла са строю, звярнулася на завод, дзе агрэгат пратрымалі 108 дзён у рамонце. А пасля наведвання Таварыства абароны правоў спажыўцоў пакрыўджаную жанчыну накіравалі ў краму з патрабаваннем вярнуць грошы і пакрыць маральныя страты за тыя 108 дзён. Наш магазін забраў машыну і выплаціў грошы за 2 дні. Пасля чаго ў судовыя інстанцыі падалі іск аб пакрыцці маральных страт і выплаты штрафу не заводам, а намі. У працэсе судовых разборак істцам было прапанавана змяніць адказчыка. У іншым выпадку пытанне застанецца без разгляду.

**— Не разумею, якім чынам крама, якая за 2 з належных па закону 14 дзён выканала свае абавязкі перад пакупніком, раптам апынулася на судзе адказчыкам?..**

— Вы гэтага не разумееце?! А ў таварыства абароны правоў такая практыка — які сэнс прад'яўляць штрафныя санкцыі заводу-банкруту?

**— Падобныя канфлікты ўзнікаюць з-за якасці тавараў...**

— І не толькі. Пры дрэннай якасці айчынных электратавараў адсутнічае сетка прадпрыемстваў сервіснага абслугоўвання гэтых тавараў і ў гарантыйны, і ў паслягарантыйны тэрмін. Калісьці ў «Рамбыттэхніцы» можа і не было высакаякаснага сервісу, але як-ніяк рамантавалі амаль што ўсё. Існавалі пэўныя правілы вырашэння канфліктных сітуацый. Зараз і таго абслугоўвання няма.

А па закону, калі няма сервіснай службы, пакупнік павінен прынесці тавар да нас. У межах гарантыйнага тэрміну мы ў кожным канкрэтным выпадку тым ці іншым шляхам вырашаем праблемы: ёсць свае механікі, часам насустрач ідуць вытворцы і самі ліквідуюць свой брак.

Часцей за ўсё атрымліваецца так: пакупнік адмаўляецца ад паўторнага рамонту, мы яму выплачваем грошы, забіраем тавар, а ўжо грошы з завода можам чакаць гадамі.

**— Але вы самі заключаеце дагаворы з «ненадзейнымі» вытворцамі, значыць, і на краме ляжыць частка адказнасці. Ці не так?**

— Так, але ж давайце і гаварыць аб частцы, а не аб поўнай адказнасці.

— Самастойна — па свайму меркаванню — мы заключаем дагаворы з замежнымі фірмамі, з прыватнымі прадпрыемствамі, якія ці ўвозяць тавар, ці самі яго вырабляюць. Больш за 100 дагавораў мы заключылі на пастаўку замежных тавараў. І праблем з дастаўкай, сервісным абслугоўваннем, рэкламай гэтых тавараў амаль што не ўзнікае, з якасцю — таксама.

У Беларусі электратавараў вырабляецца вельмі мала. І вось вам інфармацыя аб самастойнасці выбару партнёраў. Айчынныя тавары нас браць абавязваюць, існуе асартыментны іх пералік, якога мы павінны прытрымлівацца пры заключэнні дагавораў.

Няма слоў, родную прамысловасць падымаць неяк трэба. Мы не супраць, мы хочам гандляваць беларускімі вырабамі хаця б таму, што цэны на іх (праўда, не вельмі нізкія) больш даступныя для большай колькасці пакупнікоў, чым на замежныя тавары.

Абсурднасць сітуацыі ў тым, што далёка не ўсе заводы праяўляюць цікавасць да супрацоўніцтва з намі. Здараецца, склад завалены гатовай прадукцыяй, а атрымаць яе без праблем і валакіты мы не можам.

Напрыклад, хацелі б гандляваць асвятляльнай арматурай Лідскага завода, але ніяк не можам знайсці з імі агульную мову і дагаварыцца аб умовах: то ў прадпрыемства няма грошай на транспарціроўку, калі ж мы згадзіліся даць гэтыя грошы, яны адмовіліся назваць тэрмін адгрузкі тавару.

**— Калі нельга вырашыць самастойна праблемы, магчыма, вы прапануеце якія-небудзь варыянты выйсця з такіх вось па цывілізаваных мерках абсурдных сітуацый?**

— Неабходна прадумаць схему арганізацыі сервіснага абслугоўвання на месцах. Заводы маглі б скааперавацца хоць бы па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Але прадумваць і абмяркоўваць гэта павінны тыя, хто нясе прамую адказнасць за якасць і рамонт тавараў. У першую чаргу вытворцы.

Мы ж можам гарантаваць толькі высокі ўзровень ведаў і абслугоўвання пры рэалізацыі тавару.

Яшчэ адна наша ініцыятыва: крама рассылае лісты 15 прадпрыемствам (акрамя мінскіх), якія не маюць сервіснай службы. У гэтых лістах у даволі жорсткай форме прапанавана прадпрыняць меры для забеспячэння гарантыйнага і паслягарантыйнага рамонту сваёй тэхнікі. Нічога канкрэтнага, трэба прызнацца, гэта нам не дасць, але хочацца сябе рэабілітаваць. Праўда, можа толькі ва ўласных вачах. Нашы патрабаванні вырашальныя пры жаданні думаць і працаваць. Гэта даказвае і вопыт некаторых беларускіх прадпрыемстваў.

**— Якіх?**

— Добра працуе «Атлант» (вытворчасць халадзільнікаў). Яны прасоўваюць свой тавар на рынак, актыўна рэкламуюць яго, праблем з сервісам не ўзнікае.

Лепельскі завод, які выпускае нядрэнныя пыласосы «Аўтаматык», заўсёды цікавіцца думкамі аб сваім дзецішчы. Збіраюцца там наладзіць выпуск мыйнага пыласоса. Самастойна жадаюць адкрыць у Мінску сэрвісную службу.

**— А якіх вытворцаў рэспублікі можна было б унесці ў, скажам так, «чорны спіс»?**

— Складанае пытанне. З некаторымі, напрыклад, брэсцкімі прадпрыемствамі сапраўды цяжка працаваць. Склалася ўражанне, што там не цікавяцца праблемамі рэалізацыі свайго тавару. А Брэст жа з'яўляецца манапалістам у вытворчасці некаторых відаў электратавараў на Беларусі, бо прадукцыя значна танней за замежную.

Іншая справа — гомельскія заводы, адкуль усё ж таксама ідзе шмат браку. Але там няма абыякавасці да праблем рэалізацыі сваіх вырабаў. Праблема ў тым, што заводы падводзяць пастаўшчыкі.

Не хочацца каго-небудзь уносіць у «чорны спіс». Мабыць, для прадпрыемстваў Беларусі трэба зрабіць скідку на складанасць сітуацыі.

**— Але ж, пагадзіцеся, пакупнікам ніхто ніякіх скідак не зробіць!**

**Гутарыла Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

## ПЫТАЛЬНІК

### ФЛЮАРАГРАФІЯ — СПРАВА БЯСШКОДНАЯ. НЕ ІГНАРУЙЦЕ ЯЕ

***Мы абслугоўваемся ў паліклініцы па месцы жыхарства. Кожны раз, калі наведваем гэтую ўстанову, ад нас патрабуюць прайсці флюараграфію. Вельмі просім растлумачыць, што гэта за «абавязалаўка». Закон такі ёсць, ці якая пастанова ўрада?***

**З павагай Марыя Іванаўна ПЯТРОВА.**

Закона, які прымушаў бы грамадзян выконваць такую працэдуру, няма. І пастановы ўрада таксама. Але ёсць загад № 555 Міністэрства аховы здароўя СССР ад 29 верасня 1989 года «Аб удакладненні сістэмы медыцынскіх аглядаў...», дзе ўказваецца, што флюараграфічнае абследаванне — абавязковая працэдура пры паступленні на работу. Як мяняеце месца работы — рыхтуйце даведку, што абследаванне вы прайшлі. Гэтым жа загадам устанаўліваецца абавязковае праходжанне раз у год флюараграфіі ўсімі грамадзянамі. Саюза ўжо даўно няма, але дакумент працягвае дзейнічаць. І вось чаму. З дапамогай флюараграфічнага абследавання выяўляюцца захворванні лёгкіх, у прыватнасці туберкулёз. А кожны нявыяўлены хворы можа заразіць на працягу года больш за дзесяць чалавек. Доза іанізуючага апраменьвання, якую атрымлівае пацыент пры рэнтгеналагічным сеансе, не перавышае дозы, якую ён атрымлівае на працягу дня загараючы. Спецыялісты раяць не ўпарціцца і праходзіць флюараграфію. Зрэшты, гэта зрабіць куды прасцей, чым потым вылечыцца ад туберкулёзу. Але наведваць кабінет некалькі разоў на працягу года не варта. Прасачыце, каб у вашай медыцынскай карце была зроблена паметка. І прыходзьце сюды зноў... праз 12 месяцаў.

### ЧАМУ МНЕ АДМОВІЛІ Ў КАМПЕНСАЦЫІ?

***Мой бацька ў 30-я гады быў рэпрэсіраваны, а яго маёмасць канфіскавана. Аднак ніякай кампенсацыі я не атрымаў. Чаму?***

**С. СТАРАВОЙТАЎ,**
*в. Любжына, Ушацкі раён.*

Старшыня камісіі пры Ушацкім раённым Савеце дэпутатаў па аказанню садзейнічання ў забеспячэнні правоў ахвяр палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў і ўвекавечанні іх памяці П. Хвашчэўскі паведаміў: заява гр. Старавойтава Сямёна Рыгоравіча (Ягоравіча, па пашпарту Георгіевіча) аб выплаце кампенсацыі за канфіскаваную маёмасць у яго бацькі ў час рэпрэсій у 30-я гады была разгледжана адпаведнай камісіяй пры Віцебскім абласным Савеце дэпутатаў яшчэ ў 1993 годзе (пратакол пасяджэння камісіі № 2 ад 29.03.93 г.). Праведзенай праверкай факт рэпрэсій у выглядзе асуджэння ці высылкі Старавойтава Ягора Мікалаевіча не ўстаноўлены. У архіве інфармацыйнага цэнтра УУС Віцебскага аблвыканкома, УКДБ Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці і Дзяржархіве Віцебскай вобласці ніякіх сведчанняў аб прымяненні рэпрэсіўных мераў у крымінальным ці адміністрацыйным парадку ў адносінах да яго няма.

Матэрыялы праверкі па заяве С. Старавойтава захоўваюцца ў архіве ІЦ УУС Віцебскага аблвыканкома.

У сувязі з заключэннем абласной камісіі рашэннем Ушацкага райвыканкома ад 06.07.93 яму было адмоўлена ў выплаце кампенсацыі.

### ТОЛЬКІ З 1 СТУДЗЕНЯ 1992 ГОДА

***Працую мулярам на будоўлі. Работа, пагадзіцеся, нялёгкая. Растлумачце, калі ласка, чаму мне не даюць пенсіі ў сувязі са складанымі ўмовамі працы?***

**С. ЖАНЕЎСКІ,** *г. Орша.*

*Па просьбе рэдакцыі на гэта пытанне адказвае намеснік галоўнага дзяржаўнага эксперта рэспублікі па ўмовах працы Міністэрства працы С. ГАЛЯН:*

— Паважаны Сцяпан Канстанцінавіч, па сутнасці вашага пытання паведамляю.

Згодна з пастановай Кабінета Міністраў ад 2 жніўня 1995 г. № 408 «Аб зацвярджэнні спісаў вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў, якія даюць права на пенсію за работу з асаблівымі ўмовамі працы» пры назначэнні пенсіі па ўзросту ў сувязі з такімі яе ўмовамі ў адпаведнасці з артыкулам 12 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» перыяды працы, прадугледжаны спісам № 1 і спісам № 2, залічваюцца ў працоўны стаж, пачынаючы з 1 студзеня 1993 г. ці з моманту ўнясення змяненняў і дапаўненняў у гэтыя спісы.

Пры наліччэнні стажу за час работы да гэтай даты прымяняюцца спісы № 1 і № 2 вытворчасцей, цэхаў, прафесій і пасад, праца ў якіх дае права на дзяржаўную пенсію на льготных умовах і ў льготных памерах, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі з 1 кастрычніка 1956 г. да 31 снежня 1991 г., а таксама спіс № 1 і спіс № 2, якія дзейнічалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 1 студзеня да 31 снежня 1992 года. Пры гэтым у стаж для назначэння пенсій у сувязі з асаблівымі ўмовамі працы залічваецца работа, прадугледжаная названымі спісамі і выконваемая ў перыяд іх дзеяння.

Вы працуеце мулярам з 1968 года, але ў спісах, якія дзейнічалі з 1956-га па 1991 г., такая прафесія не значылася. Муляры, якія пастаянна працуюць у брыгадах і ў спецыялізаваных звёнах комплексных брыгад, былі ўнесены ў спіс № 2 з 1 студзеня 1992 года пастановай былога Кабінета Міністраў СССР. Таму ў ільготны стаж, неабходны для назначэння пенсіі за работу з асаблівымі ўмовамі працы, будзе вам залічана работа ў якасці муляра толькі з гэтай даты.

# НАДЗЁННАЕ

## Васіль СТРАЖАЎ:



# «БАЦЬКАМ НЕ ВАРТА ПЕРАЖЫВАЦЬ, РЭФОРМЫ Ў ШКОЛУ ПРЫЙДУЦЬ ПАСТУПОВА...»

**Чым адрозніваецца сёлетні верасень ад мінулагодняга? Паставіўшы гэтае пытанне ў эпіцэнтр, вызначыўшы як галоўнае, газета «Звязда» запрасіла да размовы міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васіля Стражава.**

**— ВАСІЛЬ ІВАНАВІЧ, ужо, відаць, настаў час, калі вы ў межах усёй сваёй сістэмы пераходзіце да ажыццяўлення раней абвешчанага рэфарміравання? Наўмысна пачынаю з гэтага пытання размову, бо ведаю, бацькоў — асабліва бацькоў малодшых школьнікаў — заўсёды непакоіць, якому ж эксперыменту на гэты раз будуць падвергнуты іх дзеці...**

— Па-першае, бацькам не варта перажываць, рэформы ў школу прыйдуць паступова. Я нават сказаў бы так: незаўважна для самых бацькоў. Пагадзіцеся, што сістэма школьнай адукацыі (як, між іншым, і адукацыі ўвогуле) — рэч даволі кансерватыўная. Калі звяртацца да асноўных ведаў, то хіба нашы дзеці вучацца не адно і тое ж, напрыклад, па матэматыцы, што вучылі іх бацькі? Іншая справа, што мяняецца форма выкладання, працуюць новыя методыкі. Упэўнены, калі б вы зазірнулі ў падручнік сярэдзіны стагоддзя — знайшлі б шмат знаёмага.

**— І не дзіва. Гэта ж позірк назад...**

— Тое ж было б, калі б можна было б апынуцца ў будучым часе і зрабіць параўнанне з сённяшняй вучэбнай кнігай. Безумоўна, гэта датычыцца перш-наперш дакладных навук.

**— Васіль Іванавіч, і ўсё ж пра рэформы. У якой ступені яны закрануць школу сёлета?**

— Паўтаруся яшчэ раз: ніякага ўзрушэння не будзе. Толькі паступовасць. Калі гаварыць пра гэты навучальны год, то працэс рэформы непасрэдна зусім не закране вучня. Праца зараз ідзе ў іншай сферы. Навукова-даследчыя, творчыя калектывы працуюць над стварэннем новых методык. Ідзе, скажам так, нармальны навукова-педагагічны пошук. Наступным этапам будзе ўвядзенне, апрабацыя гэтых методык у школе. Для эксперымента выберам літаральна ўсяго некалькі педагагічных калектываў. Але ж і выбар гэты адбудзецца не сёлета, а крышачку пазней.

**— Тут, прызнацца, у мяне ўзнікае зусім заканамернае, выкліканае сённяшняй эканамічнай сітуацыяй пытанне. А ці так ужо выгадна зараз праводзіць рэформы ў школе, пераходзіць, хай сабе і спакваля, на 12-гадовую сістэму навучання? Хіба ж і без таго падаткаплацельшчыку не цяжка?**

— Што ж, давайце паспрабуем удакладніць матэрыяльны бок справы. Дарэмна падаткаплацельшчык перажывае, што, маўляў, рэформа школы моцна ўдарыць па яго кішэні. Калі мець на ўвазе сёлетнюю працу над методыкамі, то на гэта выдзелена параўнальна нязначная сума. Да таго ж усё роўна па тых ці іншых пытаннях мы павінны былі б займацца пашырэннем навукова-даследчыцкай дзейнасці. Іначай немагчымы рух наперад.

**— Выданне літаратуры — і падручнікаў, і метадычных дапаможнікаў — вось, пэўна, што выкліча і ўжо выклікае велізарныя эканамічныя праблемы. Магчыма, дзяржава магла б перакласці, хаця б часткова, гэты клопат на плечы бацькоў? Мы ж усе цудоўна памятаем, што некалі бясплатных падручнікаў не было. І кожны навучальны год завяршаўся тым, што недзе напрыканцы мая дзеці дружна адпраўляліся ў кнігарні і набывалі камплект патрэбнай літаратуры на наступны год.**

— Пайсці па гэтаму шляху немагчыма. Безумоўна, можна было б змяніць форму размеркавання, ды і планавання тыражоў вучэбнай кнігі. Хаця і гэта не так проста.

Паўстае пытанне абаротных сродкаў для выдавецтва і паліграфічных прадпрыемстваў. Свае ўмовы пачне дыктаваць і напаўразвалены кнігагандаль. Сёння ж схема (і для дзяржавы асабіста я ўяўляю яе ідэальнай) даволі простая: дзяржава выдзяляе сродкі. Міністэрства адукацыі і навукі выступае ў ролі заказчыка, стараючыся максімальна эфектыўна выкарыстаць гэтыя сродкі.

**— Існуюць і іншыя прапановы наконт вырашэння пытання аб друкаванні падручнікаў...**

— Канешне ж яны мне вядомы. У тым ліку і ідэя, пажаданне ці прапанова, якая прагучала на старонках «Звязды» з вуснаў старшыні Дзяржкамдруку Уладзіміра Пятровіча Бельскага. У прыватнасці, ён адзначыў: «Дзяржкамдрук унёс шэраг важных прапаноў... Прэзідэнт нас падтрымаў. Адным з асноўных пунктаў з'яўляецца ўжо згаданы законапраект аб падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі. А таксама — *перадача фінансавання па кнігавыданню літаратуры для школы праз Дзяржкамдрук».*

Ведаеце, за гэтымі словамі прыхавана лабіраванне інтарэсаў сваёй галіны. Атрымаўшы сродкі ў сваю кішэню, Дзяржкамдрук будзе заклапочаны, як найхутчэй іх асвоіць, пры гэтым — з максімальнай рэнтабельнасцю для сябе. Пытанне ж паўнаты насычэння школы падручнікамі выдаўцоў надта і хваляваць не будзе. Не хапае падручнікаў? А мы, маўляў, тут пры чым? Давайце болей сродкаў — будуць большыя і тыражы.

**— Добра, а што ж вы зробіце, атрымаўшы, магчыма, невялікія, таксама не зусім задавальняючыя вас сродкі?**

— Мы, паўтаруся, — заказчыкі. Будзем шукаць выдаўца, які нас задаволіць. Сёння прыватны выдавец пішчом лезе, каб толькі атрымаць заказ на выданне масавых тыражоў падручнікаў. Пры гэтым цэны прапаноўвае ніжэйшыя, чым падраздзяленні Дзяржкамдруку. Адбываецца дзіўная рэч. Апякуючыся, здавалася б, інтарэсамі агульнымі, працуючы на Яе Вялікасць Дзяржаву, мы з дзяржаўнымі структурамі з цяжкасцю знаходзім агульную мову. Манапалізм той ці іншай галіны пераўзыходзіць межы магчымага і дапушчальнага, на мой погляд.

**— Вучэбная кніга — гэта не толькі падручнік для школы.**

— Так. І на гэта хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу. Але спачатку давайце завершым пра падручнікі. У прыватнасці, пра спробу ці згаданую вамі магчымасць перакласці матэрыяльны цяжар на плечы бацькоў. Ведаеце, не пацягнуць. Уявіце сабе наступную сітуацыю. У сям'і вясковых працаўнікоў (нават са стабільнага калгаса, дзе заўсёды ў час выдаюць зарплату, але ж, пэўна, не болей як 500—600 тысяч рублёў) двое дзяцей. Патрэбны, акрамя ўсяго іншага, — вопратка, абутак. Яшчэ і два камплекты падручнікаў набыць. А кошт кнігі такі, што ў паўмільёна не ўкладуцца.

**— Атрымліваецца, дзяржаўная дабрачыннасць...**

— Не, дзяржаўная праграма. Ці, хутчэй, — частка дзяржаўнай праграмы па забеспячэнню сацыяльных гарантый бясплатнай адукацыі.

Цяпер пра метадычную і іншую важную літаратуру. У нас пры міністэрстве існуе рэспубліканскі метадычны цэнтр. Там сабрана выключна падрыхтаваная, адукаваная каманда. Цэнтр робіць тое, што павінна было б рабіць выдавецтва «Народная асвета», але на болей высокім прафесіянальным узроўні. У гэтым — вялікая падмога нашай сістэме.

Узнікаюць пытанні з выданнем малатыражных падручнікаў для ВНУ. Ясная справа, што яны яшчэ ў большай ступені непрыбытковыя, чым астатняя літаратура. Але ж патрэба ў такіх выданнях існуе. Вось і нядаўна, на першай канферэнцыі Беларускага прафесарскага сходу, пытанне па малатыражных падручніках для ВНУ задалі Прэзідэнту краіны. Мы таксама ставілі яшчэ раней гэта пытанне. Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў падтрымаць.

**— Васіль Іванавіч, у прынцыпе, ведучы шмат размоў пра насычанасць школы падручнікамі, мы рэдка задаёмся пытаннем, што, магчыма, велізарныя затраты звязаны з наступным. Мяняецца ўсё ж такі змест падручнікаў, хаця вы і гаварылі пра кансерватызм школьнай адукацыі.**

— Разумею, што пытанне ваша выклікана той сітуацыяй, што склалася ў першую чаргу вакол вучэбнай літаратуры гуманітарнага цыкла. Але тут, мусіць, болей размоў, чым трэба. На сёння пытанне востра не стаіць. Падручнікі па гісторыі падрыхтаваны аб'ектыўныя, насычаныя ў большай ступені фактамі, чым нейкімі тэндэнцыямі.

Тут хацелася б зазначыць іншае. Тое, пра што амаль ніколі і нідзе мы не гаворым. Быў час, калі Масква, з'яўляючыся для нас Цэнтрам, брала на сябе вырашэнне ўсіх пытанняў. Падручнікі — адтуль. Метадычныя, даследчыцкія цэнтры — там. І вось усім гэтым нам даводзіцца займацца самім. Самастойна. Атрымліваецца, як ні дзіўна. І метадычныя цэнтры ствараюцца. Праца іх прыносіць плён. І падручнікі па ўсіх дасцыплінах маем свае, уласныя, ніколькі не горшыя за ранейшыя, напісаныя і выдадзеныя ў Маскве. Вы можаце сабе ўявіць, што значыць — замяніць ужо цэлы камплект падручнікаў для пачатковай школы? Я асабіста лічу, што адбыўся «ціхі подзвіг». У нас усё, што толькі магло, спынялася, баставала, патрабавала. Настаўнікі ж працавалі, хаця і ім, як вы ведаеце, даводзілася і даводзіцца нялёгка.

**— Асабліва сёлета, з выплатай заработнай платы...**

— І ўсё ж, якім бы складаным не было напаўненне бюджэту, грошы для настаўнікаў знайшлі. Мы бачым, што пытанні выплаты заробку работнікам адукацыі знаходзяцца заўсёды ў полі зроку Прэзідэнта. Але, хаця і ёсць запэўніванні, што сітуацыя ў гэтым накірунку зменіцца да лепшага, хаця ёсць указ аб штоквартальнай выплаце пяці мінімальных зарплат, дзяржава распрацоўвае іншыя шляхі заахвочвання педагогаў. Да месца тут будзе параўнанне настаўніка з урачом. Медыку не трэба, якой бы складанай ні была эканамічная сітуацыя, купляць шпрыцы, лекі. Няма — і ўсё тут. А настаўнік вымушаны, нават за апошнія грошы, набываць метадычны дапаможнік, абавязаны, згодна са сваёй унутранай патрэбнасцю, выпісваць метадычны часопіс. Іначай педагог проста не зможа выйсці да вучняў. Дык вось, прапануем увесці пэўную даплату настаўніку, улічваючы якраз гэтую патрэбу.

**— Самаахвярнасць настаўніка, сапраўды, навідавоку, Васіль Іванавіч. Але ж не ўсё залежыць ад педагога. І калі дзяржава імкнецца вырашыць пытанні з аплатай працы настаўнікаў, з забеспячэннем школ падручнікамі, то гэта ж яшчэ не ўсё. Рана ці позна рэформа ўсё ж запатрабуе большых грошай, чым іх сёлета спатрэбілася на метадычныя распрацоўкі. Вы ўпэўнены, што сродкі знойдуцца?..**

— Сёння многа гавораць пра крызіс у эканоміцы, у народнай гаспадарцы. Але часам залішне драматызуюць сітуацыю. Звернем увагу на фінансаванне адукацыі толькі з 1994 года. І відавочна, што ідзе рост выдзеленых з бюджэту сродкаў. Акрамя таго, тут ёсць адзін момант. У выніку не зусім спрыяльнай дэмаграфічнай сітуацыі ў наступныя гады значна скарачаецца колькасць вучняў. Такім чынам, калі фінансаванне застанецца нават на ранейшым узроўні, то ўсё адно ўзрасце эфектыўнасць выкарыстання сродкаў на развіццё адукацыі, на рэформу.

І яшчэ. Нягледзячы ні на што, працягваецца будаўніцтва школ. Сёлета будзе ўведзена ў эксплуатацыю два дзесяткі новых будынкаў. Гэта, мяркую, пра нешта гаворыць.

**— Васіль Іванавіч, сёння шмат размоў пра русіфікацыю школы. Здадзены многія пазіцыі па пашырэнню беларускай мовы ў сферы адукацыі, што былі заваяваны ў 1991—1993 гадах...**

— Размовы былі і будуць. То з адным, то з другім акцэнтам. Дзяржаўнасць беларускай мовы пацверджана законам, Канстытуцыяй (да таго ж і ў новым яе праекце). А што датычыць памяншэння колькасці беларускіх класаў, то, думаю, працэс ужо стабілізаваўся. Ніжэй наўрад ці будзе планка апускацца. І я не вініў бы тут чыноўнікаў ці некага яшчэ. У зніжэнні колькасці беларускіх школ — адлюстраванне стаўлення грамадства да роднай мовы. А калі вы ўжо гаварылі пра пазіцыі, то многія з іх таму і здадзены, што дужа ўжо ваяўніча і рашуча заваёўваліся.

І ў пытаннях мовы, у пытаннях нацыянальнай адукацыі павінна прысутнічаць разумнасць, узаемапавага прадстаўнікоў самых розных нацыянальнасцей.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

---

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...Правесці рэйд з супрацоўнікамі санэпідслужб

**Камерцыйныя ларкі настолькі прыжыліся на мінскіх вуліцах і палюбіліся гараджанам, што без іх ужо нават цяжка абысціся. На самай справе, для такой любові ёсць усе падставы: разнастайнасць прадукцыі, якая прапануецца, плюс адносна нізкія, у параўнанні з дзяржаўным гандлем, цэны на яе дадаткова падмацоўваюцца даволі зручным для пакупніка рэжымам работы камерцыйных кропак. Аднак, як сцвярджае народная мудрасць, «не ўсё тое золата, што бліщчыць», і далёка не заўсёды, як паказвае вопыт, яркая шыльда ці ярлык гарантуюць высокую якасць тавару. У гэтым я мела цудоўную магчымасць пераканацца, правёўшы з супрацоўнікамі Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі адну з рэйдавых праверак прадпрыемстваў камерцыйнага гандлю Фрунзенскага раёна сталіцы.**

Схема дзеянняў супрацоўнікаў санэпідслужбы мяне адразу насцярожыла: нягледзячы на прысутнасць у групе ўрачоў-гігіеністаў розных накірункаў (гігіена харчавання, гігіена дзяцей і падлеткаў, камунальная гігіена), перад кожным з якіх стаіць свая задача, адначасовае ўсебаковае абследаванне імі аб'екта практычна немагчыма. Справа ў тым, што сістэма апавяшчэння ў камерсантаў працуе безадмоўна: варта толькі санстанцыі з'явіцца на «іх» тэрыторыі, як усе камерцыйныя ларкі адразу па featured прычыне закрываюцца. Вось і даводзіцца ўрачам разгрупоўвацца, каб з поля іх зроку ніхто не знік. А хаваць прадаўцам, як правіла, заўсёды ёсць што. Ну, напрыклад, ці часта можна сустрэць каля камерцыйных ларкоў сметніцу, наяўнасць якіх, між іншым, абавязковая. У сваёй большасці бананавыя лупіны ўжо даўно сталі іх атрыбутам. І наогул, па іх колькасці вельмі зручна меркаваць аб тым, наколькі ўдалым быў для гандляроў працоўны дзень. Але гэта толькі знешні «бляск»! А што, цікава, робіцца ўнутры?

Адсутнасць сертыфікатаў якасці на рэалізуемы тавар — самы распаўсюджаны від парушэнняў санітарных правілаў гандлю. Пераканалася я ў гэтым лёгка, бо з шасці абследаваных намі ў ходзе рэйду аб'ектаў у пяці з іх прадаўцы дакументы, якія сведчаць аб якасці прапанаванага для продажу тавару, прад'явіць не змаглі, знайсці ж на рэалізуемым тавары даныя аб даце вырабу і канчатковым тэрміне іх рэалізацыі таксама аказалася вельмі праблематычным. Так што «кот у мяху» пакупніку быў забяспечаны. А аб яго некампетэнтнасці магу меркаваць па сабе.

Ну каму з нас, напрыклад, вядома, што кансервы ці, скажам, шакалад прадавец павінен нам даставаць не з вітрыны — у яго для іх захоўвання павінен быць халадзільнік! Ну а хіба мала хто з нас «клюнуў» у спякоту на аб'яву «Прадаём халоднае піва і напоі»? Прычым дадаткова заплаціў за іх «ахаладжэнне». А без холаду рэалізацыя напояў, між іншым, наогул забаронена. Але гэта зусім не бянтэжыць прадаўцоў: у адным з правераных кіёскаў бутэлечнае піва не толькі прадавалася цёплым, але і дакументаў, якія сведчылі б аб яго якасці, таксама ў прадаўца не знайшлося.

Дарэчы, сертыфікаты якасці неабходныя не толькі на харчовую прадукцыю. Так, напрыклад, касметычныя тавары могуць нанесці здароўю не меншую шкоду. Яшчэ больш небяспечна «эксперыментаваць» з уласнымі дзецьмі: наўрад ці клапатлівыя мамы ведаюць, што яркія дзіцячыя рэчы таксама могуць таіць у сабе небяспеку. Справа ў тым, што ў фарбавальніках могуць утрымлівацца шкодныя для дзіцячай скуры хімічныя рэчывы. І нядзіўна, калі яркі дзіцячы джэмпер пасля першага ж мыцця моцна «губляе» ў колеры. Дзіцячыя цацкі з паверхневым фарбаваннем (г. зн. калі фарба можа трапіць у рот дзіцяці) таксама небяспечныя. Наогул усё, што дзіця цягне ў рот (бразготка, лялька ці фламастэр), у гігіеністаў выклікае трывогу. Затое людзі, якія імі гандлююць, шчыра «не разумеюць», чаму ад іх патрабуюць сертыфікаты якасці.

Зразумела, за парушэнні камерсантаў штрафуюць, прычым больш за 70 працэнтаў усіх штрафаў прыпадае менавіта на аб'екты камерцыйнага гандлю. У выніку толькі адной нашай выбарачнай праверкі Фрунзенскага раёна сталіцы за санітарныя парушэнні правілаў гандлю былі вынесены дзве пастановы аб забароне эксплуатацыі аб'ектаў і адна пастанова аб адхіленні ад работы дырэктара фірмы (нагадаю, што абследавана было ўсяго 6 аб'ектаў!), не лічачы прымянення штрафных санкцый. Так што «вайна» ідзе. «Вайна», непрыметная для пакупніка, якому пакуль нічога іншага не застаецца, як спадзявацца на сумленне прадаўца...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

---

## Анталогія беларускай песні

Асабліва плённы перыяд фальклорнага збіральніцтва для Рыгора Шырмы прыпаў на другую палову 20-х гадоў. Тады ён складаў беларускі рэпертуар для хору навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі, дзе працаваў выкладчыкам, і бачыў неабходнасць захавання народнага меласу.

У 1928 годзе ў Пружанах, дзе ў маленстве Рыгор пачынаў вучыцца, а пазней і працаваў, занатаваў ад Ганны Дудзейкі песню «Там каля млына». Яна шырока бытавала на Берасцейскай, Гарадзенскай землях. Спявалі яе і на літоўскай мове.

Выканаўцы, асабліва старэйшага ўзросту, рабілі акцэнт на выказванні «Не так любіла, як шанавала». Тым самым яны вылучалі момант у зносінах закаханых, калі не толькі пяшчота, ласка, але і пастаянная ўвага, канкрэтныя яе праявы ў адносінах робяць іх трывалымі.

Песня «Там каля млына» ўвайшла ў рэпертуар самадзейных і прафесіянальных харавых калектываў, якімі кіраваў Рыгор Раманавіч Шырма, і актыўна прапагандавалася імі.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

# ТАМ КАЛЯ МЛЫНА

***Беларуская народная песня***




Там каля млына
Цвіла каліна.
Дзе ж тая дзяўчына,
Што мяне любіла? } 2 р.
Не так любіла,
Як шанавала,
Купіла коніка,
Падаравала. } 2 р.
А той конічак,
Быстрыя ногі,
Вёз мяне да мілай,
Зблудзіў з дарогі. } 2 р.

Ані сцяжынкі,
Ані дарожкі.
Паедзем, коніку,
Аж да варожкі. } 2 р.
— З кім мая міла
Ручанькі звяжа,
З кім мая мілая
Спатанькі ляжа? } 2 р.
— Ой, ляжа, ляжа
Сама з сабою,
Белыя ручанькі
Пад галавою. } 2 р.

# Шлях да нашых святыняў





НЯДАЎНА ад сцен Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора адправілася ў чарговы маршрут навукова-творчая экспедыцыя «Дарога да святыняў» з Непагаснаю Лампадаю духоўнасці. За мінулыя гады такая экспедыцыя двойчы здзяйсняла паломніцтва па гістарычных месцах Беларусі, звязаных з узнікненнем, развіццём і росквітам праваслаўнай веры на зямлі Бацькаўшчыны. У склад экспедыцыі зноў увайшлі святары, знакамітыя навукоўцы, майстры мастацтва. Варта нагадаць, што ў Непагаснай Лампадзе захоўваецца агонь, зацеплены каля жыццядайнага Гроба Гасподняга ў іерусалімскім храме Уваскрэшання. Ад гэтай Лампады вернікі Беларусі запальваюць свечкі ва ўсіх цэрквах, перад бажніцамі ў хатах. Год таму агнём ад Лампады праваслаўныя Беларусі ўрачыста падзяліліся з братамі па хрысціянскаму веравызнанню — католікамі.

Прымаючы і шануючы святыню — Жыватворны агонь ад Гроба Гасподняга, людзі зноў і зноў пераконваюцца, што кожны павінен прайсці свой крыжовы шлях, не забываючыся на нашу агульную Веру і Айчыну.

Кажуць, колькі на зямлі нашай пагоркаў — столькі і Загор'яў, колькі рачулак — столькі і Зарэччаў. У назве кожнай вёскі ёсць часцінка, якую дала сама зямля або людзі. А што чуецца ў пяшчотных назвах Любча, Уселюб? Хіба ж не любоўю напоўненыя гэтыя жывыя імёны? Хіба ж не зіхаціць у іх галоўнае багацце, дадзенае нам спрадвеку: ратавальная любоў да ўсяго створанага Богам.

Мястэчкі з такімі назвамі сустрэліся на шляху экспедыцыі не выпадкова, як не выпадкова быў пракладзены увесь яе маршрут праз Баранавіцкі і Навагрудскі раёны.

Недалёка ад Баранавіч, каля вёскі Загор'е, ёсць вялікае поле, зямля якога здаўна набрыняла жалобаю. Ідзеш па гэтаму полю, а ў прамытых дажджамі раўчуках раз пораз бачыш... чалавечыя косці. Святым завуць гэта поле, бо ў васьмідзесятых гадах, баронячы ад вандалізму астанкі палеглых тут салдат, з-пад зямлі выйшла ікона Прасвятога Пакрова Багародзіцы. Спыніліся тады на гэтым полі ўсе земляныя работы, а неўзабаве на месцы, дзе спачылі воіны розных дзяржаў, розных нацыянальнасцей, розных войн, адпалаўшых у нашым стагоддзі, быў устаноўлены памятны крыж. На Святое поле ўдзельнікі экспедыцыі прыйшлі хрэсным ходам разам з мясцовымі святарамі і суседнімі вяскоўцамі. Да набажэнства тут узвялі невялічкую капліцу, паклалі на зямлю дарожкі з кветак...

Непагасным агнём Лампады духоўнасці былі ў той дзень асвечаны крыж, капліца, памянуты ўсе загінуўшыя тут і стаўшыя роднымі перад Вечнасцю.

Міжволі прыходзіць думка, што ўся зямля Беларусі, нібы тое адзінае Святое поле, просіць нас трымацца разам у памяці і любові. Напэўна таму так натуральна і да месца прагучалі словы праваслаўнага набажэнства, якое прайшло на ўскраіне маленькіх каталіцкіх могілак у вёсцы Крашын, каля помніка паэту Паўлюку Багрыму. Няхай па-рознаму спяваюць Вечную памяць вернікі розных канфесій — у іх сэрцах гэта гучыць аднолькава. Непадалёку адсюль на ахвяраванні вяскоўцаў будуецца праваслаўны храм. Хросны ход ад магілы паэта да падмуркаў новай царквы праклаў яшчэ адну жыццядайную сцяжыну памяці.

Больш чым дзе сабралася людзей на сустрэчу Непагаснай Лампады ў вёсцы Валеўка на Навагрудчыне. Па-святочнаму апранутыя, ад малога да старога, выйшлі вяскоўцы разам з самым аўтарытэтным тут чалавекам — айцом Мікалаем. Сорак сем гадоў служыць ён у сваім прыходзе. Адпавядае гэты паважаны святар самому будынку царквы — тры стагоддзі стаіць храм на зямлі Навагрудчыны.

У апошні дзень свайго паломніцтва па прыходах Бацькаўшчыны ўдзельнікі экспедыцыі прысутнічалі пры ўрачыстым адкрыцці помніка навагradскаму благавернаму князю Войшалку — святому Елісею Лаўрышаўскаму. Асвечаны Лампадаю духоўнасці, гэты помнік яшчэ раз нагадвае новым пакаленням пра славутую гісторыю заснаванага тут у старажытнасці першага праваслаўнага манастыра на заходніх землях Беларусі.

Зямля Беларусі стала добрай глебай для пасеву Слова Божага, якое памножылася на багатых нівах сэрцаў нашых продкаў і прынесла свой багаты плод.

**Яўген ПЯСЕЦКІ**
**удзельнік экспедыцыі.**







***НА ЗДЫМКАХ:** кіраўнік групы духоўнага суправаджэння экспедыцыі айцец Сергій КУЗЬМЯНКОЎ; новы храм у вёсцы Любча; з вяскоўцамі гутарыць удзельніца экспедыцыі, загадчык Мінскага цэнтра духоўнага выхавання Інеса КОНЧЫК; новая капліца на Святым полі; удзельнікі экспедыцыі і вяскоўцы ў час хрэснага ходу; набажэнства на магіле паэта Паўлюка Багрыма; Надзеі Аляксандраўне ШЧЭРБА восемдзесят два гады. Свае зберажэнні яна ахвяравала на будаўніцтва новай царквы і стала першым ініцыятарам яе будаўніцтва.*






## НАРЫХТОЎКІ НА ЗІМУ

### Дыетычная закуска

Моркву і цыбулю (па кілаграму) пачысціць, парэзаць, абсмажыць у алеі. Асобна прыгатаваць заліўку з 6 літраў працёртых праз рэшата памідораў з сокам. Пакласці ў заліўку цыбулю з морквай, дабавіць соль, перац гарошкам і тушыць ўсё разам паўгадзіны. Тым часам асобна абсмажыць да ружовай скарыначкі салодкі чырвоны перац разам з маленькай ножкай. Калі перац трапіўся вельмі моцны, можна накалоць яго ў некалькіх месцах, каб ён стаў эластычным і лягчэй укладваўся ў слоікі.

Стэрылізаваныя слоікі запоўніць слаямі: заліўка — перац — заліўка... І так да самага верху. Закатаць гарачымі стэрыльнымі накрыўкамі і перакінуць уверх дном, пакуль не астынуць.

Такую закуску можна падаць у гарачым выглядзе як другую страву. А калі выкарыстаць менавіта як закуску — вылажыць перцы на спадачак вострым канцом у цэнтр, а ножкай да краю, у сярэдзіну ўліць соус, можна яшчэ пасыпаць зяленівам. Выглядае апетытна, а водар...

### Вострая закуска з кабачкоў

Нарэзаць кабачкі кружочкамі, пасаліць, абсмажыць у алеі з абодвух бакоў і скласці ў слоікі, абмакнуўшы напярэдне кожны кружок паасобку ў воцат і перасыпаючы зубкамі часнаку. Слоікі стэрылізаваць 10 хвілін, закатаць.

### Аджыка

2,5 кг памідораў, 1 кг перцу, 1 кг морквы, 1 кг яблыкаў (лепш антонаўка), 100 г чырвонага стручковага перцу прапусціць праз мясарубку і паставіць на агонь. З моманту закіпання варыць на невялікім агні 1 гадзіну. Калі маса астыне, дабавіць 150—200 г часнаку, 1 шклянку воцату, 1 шклянку цукру, столькі ж алею і 50 г солі. Добра перамяшаць і раскласці ў гарачыя стэрылізаваныя слоікі, закатаць. Захоўваць у халаднаватым месцы.

### Марынаваная кукуруза

5-6 невялікіх пачаткаў пачысціць, выдаліць валаскі, пакласці ў слоік вярхушкай уверх. Затым дадаць сталовую лыжку солі і цукру, наліць 3 сталовыя лыжкі воцату і заліць даверху халоднай гатаванай вадой (можна крынічнай). Накрыць слоік накрыўкай і стэрылізаваць ў вадзе, што кіпіць, паўгадзіны, затым закатаць. Зярняткі атрымліваюцца вострыя на смак, а колер — ярка-жоўты.

## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

### Сок з морквы

**«Як у хатніх умовах прыгатаваць сок з морквы?»**
**А. СТУРЛІК, г. Смаргонь**

Караняплоды морквы абрэзаць ад бацвіння і дробных карэньчыкаў, странна прамыць у халоднай вадзе. Затым здрабніць або прыгатаваць свежае пюрэ. Апрацаваную такім чынам моркву адціснуць.

Для надання прыемнага смаку і павышанай пажыўнасці да соку рэкамендуецца дабавіць роўную колькасць 10-працэнтнага цукровага сіропу і на смак — лімоннай кіслаты. Перад тым як разліць сок у слоікі, шкляны посуд неабходна стэрылізаваць 10—20 хвілін у кіпені або над парай. Затым сок падагрэць да 80 градусаў, працадзіць праз марлю і стэрылізаваць звычайным спосабам у вадзе, якая кіпіць, 10—15 хвілін з закрытай накрыўкай. Пасля чаго закатаць. Сок захоўваць у цёмным халаднаватым месцы пры плюсавой тэмпературы. Маркоўны сок захоўвае ўсе пажыўныя, дыетычныя і лекавыя ўласцівасці свежай морквы.

-1292-

## НЕАБХОДНЫЯ ДРОБЯЗІ

### Дзіцячы выключальнік




**Дзіцячы выключальнік:**
1 — асноўны выключальнік, 2 — клемы, 3 — сеткавы провад, 4 — дадатковы выключальнік, 5 — кембрык.

Колькі турбот прыносяць нам дзеці, імкнучыся да самастойнасці. Напрыклад, калі дзіця хоча ўключыць святло ў ванне ці ў туалеце, яно прысоўвае табурэтку або іншы прыдатны прадмет і стараецца на яго залезці, каб дастаць выключальнік, рызыкуючы зваліцца і набіць, сама меней, сабе гуз.

Самае простае рашэнне, каб уберагчы дзіця, — вывесці паралельна асноўнаму выключальніку дадатковы, кнопкавы. Такія выключальнікі звычайна выкарыстоўваюцца ў бра, таршэрах і іншых асвятляльных прыборах. Пры дапамозе кавалка сеткавага проваду яго падвешваюць на вышыні, якая даступна дзіцяці (гл. мал.).

Другі варыянт выключальніка дапаможа не толькі дзецям, але і дарослым, асабліва састарэлым людзям, якія вельмі часта забываюць выключаць святло. Колькі лішніх кілават намотвае лічыльнік з-за гэтага! Але дастаткова ў вушка клямкі ўстанавіць мікравыключальнік (з нармальна замкнутымі кантактамі), які падключаны паслядоўна з асноўным выключальнікам, і цяпер кожны раз, зачыняючы дзверы, мы адначасова выключаем святло, ды і малому не трэба будзе цягнуцца да выключальніка (гл. мал.). Такое прыстасаванне да таго ж штомесячна эканоміць 10—15 кВт электраэнергіі.

**Выключальнік у зашчапцы:**
1 — зашчапка, 2 — вушка зашчапкі, 3 — сеткавы провад, 4 — мікравыключальнік, 5 — кажух, 6 — асноўны выключальнік.

## АМАТАРАМ ГІТАРЫ

### Іграць будзе зручней,

**калі гітара будзе мець падвеску. Многія гітарысты не маюць такога прыстасавання, а калі і маюць, дык не такое зручнае.**

Перавагі падвескі, якую прапануем мы: гітару лёгка зняць і надзець, яна не ссоўваецца ўбок. З такой падвескай вы будзеце выглядаць больш прафесіянальна.

Самая простая гітарная падвеска складаецца з пятлі з адным кручком *(гл. мал.)*. Пры выкарыстанні падвескі з двума кручкамі гітару можна зусім не падтрымліваць, напрыклад, калі вы апладзіруеце.




Найбольш зручная канструкцыя — падвеска з рэгулятарам вышыні. Акруглы дыск-рэгулятар, выраблены з любога даступнага матэрыялу (аргшкла, дзюралюмінію, тэксталіту), лёгка перасунуць, паслабіўшы шнур, і надзейна замацаваць на патрэбнай вышыні дзякуючы вазе гітары.

Зрабіць такое прыстасаванне лёгка, рэч патрэбная, потым самі дзякуй скажаце.

-1293-

## БЫВАЛІЦЫ

### У ЖЫЦЦІ ЗАЎСЁДЫ ЁСЦЬ МЕСЦА ...«ЧОРНАМУ ГУМАРУ»

Кажучы шчыра, надакучыла сумнаватая проза жыцця, калі або палітыкі грызуцца, або эканамісты бездапаможна разводзяць рукамі, або мафіёзі цешацца. А таму вока вельмі добра прыкмячае ўсё смешнае, нават калі гэта смех праз слёзы.

Вось усяго тры гісторыі, якія альбо сам бачыў, альбо пачуў з вуснаў непасрэдных удзельнікаў.

Пачнём са святога — з набыцця ўласнага аўто. Новенькія «Жыгулі» купляеш, вядома ж, не кожны дзень. Менавіта з гэтай нагоды душэўны стан нашага з вамі земляка Васіля Н. быў больш чым прыўзняты. Ласкава трымаючыся за абаранак легкавушкі, ён уяўляў сабе, як зараз прыедзе да сяброў і тыя здзівяцца, які шыкоўны аўтамабіль ён адхапіў!

Прытармазіўшы каля святлафора, шчаслівчык у чарговы раз з захапленнем паёрзаў на новым рыпучым сядзенні, калі раптам адчуў, што... Толькі не гэта!!! Няўмела прыпыняючыся, нехта ўрэзаўся яму ў багажнік.

Раз'юшаны Васіль выскачыў з «Жыгулёў», падбег да іншамаркі, якая так няўдала «прыпаркавалася» і, выцягнуўшы з пярэдняга левага сядзення разгубленага мужчыну, пачаў ад усёй душы таго лупцаваць. Мужчынка спрабаваў неяк апраўдвацца, але... Васіль у гэты момант быў глухі.

Калі працэс «выхавання» нарэшце завяршыўся, а стомлены ўладальнік пакарабачаных «Жыгулёў» збіраўся пакінуць поле бою, з правых пярэдніх дзвярэй іншамаркі вываліўся, душачыся ад смеху, трэці персанаж гэтай гісторыі. Паклікаў здзіўленага Васіля і жэстам запрасіў зазірнуць у кабіну.

Злашчасная іншамарка аказалася ... з правым рулявым кіраваннем.

От табе і на! Не таго, выходзіць, выхоўваў...

Кажуць, аб духоўным здароўі нацыі сведчыць ступень наяўнасці гумару ў штодзённым жыцці. Не ведаю, як «белы», але «чорны» гумар надзейна пусціў карані ў нашым побыце. Нядаўна кампанія мінскіх падлеткаў паўтарыла адзін да аднаго пракручаны па тэлебачанні сюжэт з жыцця сваіх маскоўскіх, здаецца, аднагодкаў. Падпільнавалі на павароце каля дэпо тралейбус і, пакуль вадзіцелька прапускала сустрэчны транспарт, пацягнулі за вяроўкі і знялі з электралініі штангі-токапрыёмнікі. Жанчына ў кабіне нейкі час не магла зразумець, у чым справа, і гэтай невялікай замінкі хапіла, каб хлопцы прывялі з лавачкі ў скверыку запойнага алкаша з лупатымі вачыма і папрасілі яго патрымаць за «лейцы». Нарэшце з кабіны вылецела таўстуха-вадзіцелька і пачала сцябаць алкаша чырвонай форменнай камізэлькай. А ён яшчэ больш вырачыў вочы і абсалютна не разумеў, за што жанчына на яго напала, калі ён знаходзіцца «пры выкананні». Хлопцы назіралі за падзеямі зводдаль і ад рогату поўзалі па асфальце.

А вось які сапраўды «незабыўны» выпадак здарыўся са сваяком аднаго майго знаёмага.

Вясной Міхась Іванавіч зламаў сабе ногу і нейкі час быў вымушаны карыстацца мыліцамі. К лету пайшоў на папраўку, гіпс знялі, але адкінуць мыліцы стары пакуль не адважваўся. Сабе на бяду, наседзеўшыся за весну дома, прызвычаіўся ён апошнім часам да вячэрніх прагулак. І вось у час адной з іх у чаравік трапіў каменьчык. Маленькі такі, але востры і калючы. Прыставіўшы мыліцу да былой трансфарматарнай будкі і абапёршыся на яе рукамі, Міхась Іванавіч пачаў энергічна дрыгаць нагою, вытрасаючы той злашчасны каменьчык.

А побач праходзіў добрасумленны грамадзянін, і перад яго вачыма паўстала такая карціна: да электрашчыта прыліп стары і — трасецца. «Токам стукнула!» — мільганула думка. Каб парушыць ланцужок і тым самым выратаваць небараку, прахожы ўзгадаў правілы бяспекі, схапіў мыліцу і ... лупянуў ёю з усёй сілы па абедзвюх дзядзькавых руках.

Рэшту лета Міхась Іванавіч правёў у шпіталі з пераломамі абодвух перадплеччаў...

Хіба ж не смешна? Зрэшты, каму як.

Калі вы, паважаныя чытачы, нешта такое — смешнае — таксама бачылі або чулі, напішыце. Надрукуем. Мо хто і ўсміхнецца, радуючыся чужым непрыемнасцям. Чужыя ж — не свае.

А калі хопіць мужнасці пакпіць з самога сябе — такому пісьму ўвогуле не будзе цаны. Так што чакаем.

**Жахі наганяў Цімур КУДЗЕЯР.**

## ПРЫРОДНАЯ КАСМЕТЫКА

### Дапамажыце падлеткам

**У 14—16 гадоў і дзяўчынкам, і хлопчыкам вельмі важна адчуваць сябе прыгожымі, ведаць, што яны могуць падабацца іншым. Але менавіта ў гэтым узросце іх чакае «гарманальны бум» — твар пакрываецца прышчамі і вуграмі, скура становіцца тлуставатай або занадта сухой. Не пакідайце падлетка сам-насам з праблемамі знешнасці, дапамагчы яму не так ужо цяжка і дорага, тым больш зараз.**

**Ласьён ад вугроў**. Змяшаць у роўных прапорцыях сок кавуна і агурка, пры гнайнічках дадаць яшчэ адну лыжку спірту. Гэтым ласьёнам трэба праціраць скуру раніцай і ўвечары.

**Кавуновы тонік.** Сок кавуна наліць у формачкі для лёду і замарозіць. Гэтым лёдам можна праціраць твар і шыю (толькі праз марлю). Сок неабходна пакінуць на тварах на 15—20 хвілін, затым змыць гатаванай вадой. Такое ўмыванне цудоўна танізуе і асвяжае скуру.

**Ласьён з дыні**. Мякаць дыні размякчыць відэльцам і пакінуць на 1-2 гадзіны, адціснуць сок і змяшаць з 2 сталовымі лыжкамі мёду і 1 чайнай лыжкай солі. Калі соль растане, сумесь працадзіць і дабавіць на 1/2 шклянкі соку 1/2 шклянкі гарэлкі. Гэты ласьён пакінуць на скуры на 1-2 гадзіны. Як і кавуновы тонік, ласьён з дыні падыходзіць для любога тыпу скуры. А з адціснутай мякаці можна зрабіць маску.

**Маска з мякаці дыні.** Кашку, што засталася пасля прыгатавання ласьёну, пакласці на твар на 15—20 хвілін. Надзвычай добра асвяжае і сілкуе любую скуру.

**Маска для сухой скуры.** У гэтым выпадку перад тым, як палажыць кашку дыні на твар, неабходна працерці скуру аліўкавым або кукурузным алеем, затым змыць настоем рамонку або проста гатаванай вадой.

**Туалетнае малачко для сухой скуры. З**мяшаць роўную колькасць соку дыні, малачка і мінеральнай вады. Гэта малачко нельга захоўваць, таму ў запас яго не нарыхтоўвайце.

## З НАРОДНЫХ ПРЫМЕТ

### Вузельчыкі на памяць

- Калі пакутуеш ад галаўнога болю — вазьмі крыху валасоў з галавы, наматай на цвік, забі яго ў драўніну да самай плешкі;
- у ясны дзень не рві браткаў — дождж пойдзе;
- убачыць трох сарок разам — добрая прымета;
- калі цяжарная жанчына пераначуе ў вашым доме, то ў вас грошы не будуць пераводзіцца;
- хочаш прывабіць мужчыну, насі ў кішэні валяр'ян;
- калі выпісваешся з бальніцы, усё сваё забяры да крошкі, каб назад не вяртацца;
- калі закаханыя фатаграфуюцца разам — ніколі не пажэняцца;
- валасы стрыжы, калі месяц расце;
- у дзяўчыны рукі, ногі валасатыя — выйдзе замуж за багатага;
- памыешся ў нядзелю — хварэць будзеш;
- насі ў сумачцы жолуд — будзеш заўжды маладой.

-1294-

## ВАША ЗДАРОЎЕ

### Стрэс перамагчы лёгка

**У наш складаны час стрэс падпільноўвае нас літаральна на кожным кроку. Асабліва ён шкодны для жанчын. Яны проста адчуваюць патрэбу ў леках супраць гэтай распаўсюджанай хваробы.**

**Чарга ў касу магазіна ўвечары пасля работы**. Здаецца, яна зусім не рухаецца. І вы пачынаеце «заводзіцца». Стоп. Пакладзіце руку на спіну на ўзроўні нырак, ледзь бачна пакруціце бёдрамі. Праз некалькі секунд вы супакоіцеся.



**Стрэс на працоўным месцы**. Зарабіць яго нескладана. Напрыклад, начальнік не ў настроі, ён сыпле громы і маланкі, і яго гнеў накіраваны на вас. Вы сядзіце і дрыжыце. Супакойцеся. Уявіце сабе, што вас акружае светлавая абалонка. Вы працуеце пад яе аховай. Гэты просты прыём супакойвае расстроеныя нервы.

Акрамя таго, можна выкарыстаць і такі трук. Лёгка абапрыцеся нагамі аб падлогу. Затым сагніце левы локаць да правага калена, цяпер правы — да левага. Гэта практыкаванне верне вам энергію і волю.

**Сямейны стрэс**. Дзеці не слухаюцца, кошка змахнула са стала вазу, сабака сапсаваў дыван, а мужа ўсё яшчэ няма дома.

Страсяніцеся. У прамым сэнсе слова. Стоячы з сагнутымі каленьмі, страсяніце рукамі і ўявіце сабе пры гэтым, што ваш стрэс знікне ў падлозе праз ногі. Цяпер паляпайце сябе па целе моцна, напружанымі далонямі, з галавы да пятак, 9 разоў спераду, 9 разоў ззаду. Гэты прыём мабілізуе, саграване, дае сілу.

**Стрэс хатняй гаспадыні**. Вы павінны памыць бялізну, папрасаваць, прыбраць, прыгатаваць. Прычым усё адначасова.

«Зазямліцеся». Ляжце на падлогу і ўявіце сабе, што ўся негатыўная энергія праз рукі знікае ў зямлю, а сілы спакою вяртаюцца да вас.

Атрымайце асалоду. Зварыце сабе каву і смакуйце кожны глыток. Пастаўце любімую пласцінку і адчувайце задавальненне ад кожнага гуку. Думайце пра добрае, а не пра тое, што не паспелі папрасаваць. І стрэс адступіць.

**Крызіс адносінаў.** У вас сваркі з мужам. Але тлумачэнні такія балючыя.

Уявіце сабе, што ваш голас ідзе ад сэрца, тады ён будзе цяплейшы, і даверцеся сіле свайго кахання.

Уявіце сабе свечку, якую вы, патрымаўшы ў сваёй руцэ, перадаяце мужу. У думках папрасіце яго, каб ён стаў больш адкрытым і пяшчотным з вамі.

**Пастаянны стрэс, або стрэс проста так**. Праз пяць хвілін пасля таго, як вы прачнуліся, вас ахоплівае пачуццё трывогі...

Кожную раніцу запісвайце, што вы павінны зрабіць на працягу дня. Спачатку самае важнае. Не думайце аб нездзяйсняльным.

І яшчэ. Піце ваду. Не чай, не каву, не алкаголь, не малако і не сок. Менавіта вада — лепшае лякарства ад стрэсу.

**Кожны дзень асвойвайце па два вышэйпералічаныя прыёмы. Нават калі вы не знаходзіцеся ў стрэсавым стане. Толькі калі вы навучыцеся выконваць іх аўтаматычна, можна будзе сказаць, што вам абсалютна ўсё хоць бы што.**

-1295-

## КОНКУРС АНЕКДОТАЎ

Два салдаты заходзяць у «чырвоны куток»:
— Таварыш прапаршчык, можна тэлевізар паглядзець?
— Можна. Толькі не ўключайце.

●

Зампаліт сварыцца на салдата-радыста за тое, што ён не прыбраў працоўнае месца і пабег у сталовую.
Той апраўдваецца:
— Вам добра, таварыш маёр: вы рот закрылі — і працоўнае месца ўбрана.

●

Сусед па камеры пытаецца ў сукамерніка, якому хутка выходзіць на волю:
— Ці ёсць у цябе планы на будучыню?
— А як жа! У мяне ёсць планы двух банкаў і аднаго ювелірнага магазіна.

**Анекдоты даслалі Валерый БАБЕЙ і Алесь КАСЦЮКОЎ.**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 3. У старажытнай Русі: зямельны надзел удаве князя. 5. Пісьмовае або вуснае выказванне незадавальнення. 6. Канаўка для сцёку вады. 9. Частка свету. 10. Знак прыпынку. 11. Цёплае шарсцяное пакрывала. 15. Светлы, чысты пакой у хаце. 16. Лятальны апарат. 17. Прамежак часу. 19. Драблёныя крупы. 20. Прыхільнасць, чулыя адносіны. 22. Бяспраўны, эксплуатуемы чалавек. 25. Афіцыйная рэгістрацыя пражывання па пэўнаму адрасу. 27. Спосаб разважання. 28. Паўвостраў на Чорным моры. 29. Парус. 30. Найменшая часцінка хімічнага элемента. 33. Ядавітае рэчыва. 34. Краіна, дзе нарадзіўся чалавек і грамадзянінам якой ён з'яўляецца. 35. Доўгатэрміновая завіўка валасоў.

**Па вертыкалях:** 1. Паездка на невялікую адлегласць дзеля адпачынку. 2. Старадаўняя азбука, якая лягла ў аснову беларускага, рускага, украінскага і іншых алфавітаў. 3. Выпуклая замкнёная крывая лінія. 4. Усходнеславянскія плямёны, што жылі ў IV—VI ст.ст. у міжрэччы Дняпра і Днястра. 5. Вялікі стог сена. 7. Частка тэатральнай дэкарацыі, размешчаная па баках сцэны. 8. Дзікарослая травяністая расліна з ядомым лісцем. 9. Час перад захадам Сонца. 12. Напружанасць, цяжкасць становішча. 13. Абласны горад на Беларусі. 14. Група работнікаў, якая выконвае пэўнае заданне. 17. Смала, звараная з воскам, салам. 18. Геаметрычнае цела. 21. Раздзел фізікі, які вывучае з'явы і ўласцівасці свята. 23. Стройнае спалучэнне некалькіх гукаў. 24. Згорнутая для пераноскі шынель. 26. Разгорнутая сетка разведчыкаў, шпіёнаў. 27. Спецыяліст па мастацкаму праектаванню прамысловых вырабаў. 31. Лесвіца на караблі, судне. 32. Назва роўных або крыху хвалістых ўзвышшаў у гарах Сярэдняй Азіі і Казахстана.

*г. Салігорск.*



**Т. СІМАКА.**

# ГАЛАВАЛОМКА

**Калі правільна разгадаць пазначаныя звонку да цэнтра словы, то ў выдзеленых клетках акружнасці можна прачытаць назвы славутага ляснога масіву Беларусі і яго буйнейшага насельніка.**

1. Буйны рачны грызун. 2. Плямістая траваядная жывёла. 3. Невялікая рыбка сямейства ўюновых. 4. Рака на Брэстчыне. 5. Халодны пранізлівы вецер. 6. Прамысловая рыба, якая не водзіцца на Беларусі. 7. Ядомы пласцінчасты грыб. 8. Невялікі драпежны звярок. 9. Балотная птушка. 10. Дзікарослая расліна, якая шырока прымяняецца ў ежу. 11. Лясныя ягады. 12. Буйная балотная птушка. 13. Возера на Віцебшчыне. 14. Пладовае дрэва. 15. Свойская і дзікая птушка. 16. Балотная трава. 17. Дзікая прамысловая птушка. 18. Буйны веснавы жук-шкоднік. 19. Духмяная дзікарослая расліна. 20. Дрэва з доўгім лісцем.



**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*

# КРЫПТАГРАМА

**Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка вядомую рускую прымаўку.**

а) 1-2-3-4-5-6-7 — адзінка часу; б) 8-9-10-11-12 — травяністая расліна з ядавітым сокам і жоўтымі кветкамі; в) 13-14-1-15 — мяцеж некалькіх змоўшчыкаў з мэтай дзяржаўнага перавароту; г) 16-17-3-1-18-19 — паляўнічая сумка; д) 20-21-22-23 — пладова-ягадны прахаладжальны напой.



**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*

## ПРАВЕРЫМ АДКАЗЫ?

**КРЫЖАВАНКА *(31 жніўня).* Па гарызанталях:** 9. «Панарама». 10. Аўспіцыі. 11. Засуха. 12. Ракако. 13. Двайнік. 14. Канада. 16. Салінг. 18. Экран. 20. Пахітоса. 21. Шыфаньер. 22. Каранцін. 25. Скразняк. 27. Зорка. 28. Дананг. 31. Сахель. 33. Лагафет. 34. Жарало. 35. Урумчы. 36. Лігатура. 37. Драмедар. **Па вертыкалях:** 1. Кананада. 2. Калуга. 3. Шарада. 4. Камчатка. 5. Карандаш. 6. Ксеркс. 7. Фіскал. 8. Сысканне. 15. Патанін. 17. Атакама. 18. Эскіз. 19. Нырка. 23. Акадэмія. 24. Ноўгарад. 25. Скафандр. 26. Яблачкаў. 29. «Аманал». 30. Глобус. 31. Ступар. 32. Хрубер.

**Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана грамадская арганізацыя БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ХРЫСЦІЯНСКІ АДУКАЦЫЙНЫ ФОНД імя св. Мяфодзія і Кірыла. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 0655 ад 27.05.96 г.**

***Юрыдычны адрас: 220030, г. Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 24, тэл./факс (172) 29-20-55.***

**Згубленае пасведчанне на льготы № А 224083, выдадзенае 09.01. 1990 г. на імя ЛАЗАРЭНКІ Мікалая Міхайлавіча,** ***лічыць несапраўдным.***

**Сардэчна віншуем** з днём нараджэння **Міхаіла Канстанцінавіча ЯФІМОВІЧА** з г. Брэста. Жадаем здароўя, дабрабыту ў сям'і і доўгіх гадоў жыцця.

***З павагай брат і яго сям'я, г. Пінск.***



**Праўленне АТ «Світанак» ПАВЕДАМЛЯЕ,**

*што 18 верасня 1996 г. у 14.00*

**АДБУДЗЕЦЦА НЕЧАРГОВЫ СХОД АКЦЫЯНЕРАЎ**

**у актавай зале прадпрыемства. Пачатак рэгістрацыі ў 12.00.**

**ПАРАДАК ДНЯ:**

1. Інфармацыя дырэкцыі аб выніках работы АТ «Світанак» за 8 месяцаў 1996 г.
2. Унясенне дапаўнення ў Статут АТ «Світанак».
3. Стварэнне сумесных прадпрыемстваў (гандлёвыя дамы).
4. Аказанне дабрачыннай дапамогі.

## УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.







Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА.



# СТЫЛЬНЫ КУТОК

*На гэты раз «Стыльны куток» запрашае вас у краіну ценяў, краіну неабмежаванай фантазіі, дызайнераў, кідкіх вобразаў, стыльных накірункаў і новых тэндэнцый у модзе. Вы даведаецеся, як трэба выглядаць увечары. Сам Карл Лагерфельд дае парады...*

## Калі палёт фантазіі неабмежаваны

Палёт фантазіі дызайнераў сапраўды неабмежаваны. У некаторых выпадках удачлівы і таленавіты куцюр'е, здольны ўлавіць агульны настрой і перадаць канцэпцыю часу ў адзенні, засноўвае ўласны модны накірунак. Такімі першаадкрывальнікамі царства моды з'яўляюцца прызнаныя: прыхільнік Коко Шанель — Карл Лагерфельд, «італьянец без комплексаў» — Джаані Версачы, Джанфранко Ферэ, які кіруецца жаноцкасцю і рамантычным стылем, сапраўдны выдумшчык з вялікай літары — Крысціян Лакруа, прымхлівы Іў-Сен Ларан.

Кароткай даўжыні аддалі перавагу Версачы і Валенціно. А прыхільнасці Шанель і Крысціяна Дзіора дабіліся доўгія сукенкі і гарнітуры.

Джаані Версачы страціў розум ад захаплення аблягаючымі бліскучымі ярка-пералівістымі сукенкамі. Цікавай навінкай з'яўляюцца індыйскія матывы ў дызайнерскай творчасці Эмануэля Унгаро. У атэлі «Рытц» Карл Лагерфельд прадставіў калекцыю, прысвечаную вечнай заканадаўцы моды мадэмуазель Коко Шанель. Прайшло 25 гадоў з дня яе смерці. Аддаючы перавагу эры Коко, Карл Лагерфельд сканцэнтраваўся на класіцы. Незвычайна, чароўна, дзівосна ў Шанель выглядалі крыху прыўзнятыя квадратныя плечукі, што рабіла сілуэт мадэлек вельмі вытанчаным, далікатным і элегантным. На першым месцы, вядома ж, касцюм Шанель 40-х гадоў, з прыталеным жакетам і спадніцай даўжынёю да калена. Але на гэты раз, Карл Лагерфельд замест спадніцы выкарыстаў аблягаючыя штаны, крыху расклёшаныя ўнізе.

Для дасягнення жаданага вобраза куцюр'е выкарыстаў лёгкія твіды і амаль бязважкія тканіны, патокі якіх стваралі доўгія элегантныя сукенкі. Карл Лагерфельд заўсёды кіруецца прынцыпамі сексуальнасці, ашаламляльнасці ў сваёй творчасці. Ён шакіруе публіку і атрымлівае вялікае задавальненне ад гэтага. На пытанне часопіса Vogue, як шыкоўна, спакуслівa выглядаць увечары і якім колерам аддаць перавагу, вялікі куцюр'е, адказаў: «Час ваяўнічага фемінізму адышоў. Доўгія, свабодныя спадніцы з лятучых тканін азнамянуюць сабой вяртанне рамантычнага стылю. Але акцэнтуецца сучасная элегантнасць. Да вузкіх сукенак дадаюцца стыльныя дэталі: вялікія шчыльныя кара́лі-ашыйнікі і вельмі смелы выраз на спіне, які падкрэсліць хвалюючы выгіб стану».

Ноччу ап'яняюць сваім пахам травы, мяккае месячнае святло выклікае рамантычны, чуллівы настрой, людзі разнявольваюцца, абуджаюцца страсныя захапленні. Тое, у чым вы выглядаеце шыкоўна днём, ноччу з'яўляецца звычайным. Чаго нельга днём, можна ноччу. Ноч кампенсуе дзень... Тканіны празрыстыя і мяккія, газ і шыфон спалучаюцца з мяккім аксамітам. Да адзення з аксаміту дадаюцца ўпрыгажэнні з тасьмы, сутажу і аздабленне кантам. Тканіны пяшчотна аблягаюць стан, сваёй неверагоднай мяккасцю нагадваюць вялікія пышныя камякі снегу, а чароўныя колеры паўтараюць загадкавыя пахі духмяных начных кветак. Чыста-белы колер пакіньце яркаму асляпляльнаму сонцу, а месяцу — пастэлі: колеры небеленага палатна (шэра-бэжавы), крэмавы і шэры, ружова-ліловы, светла-зялёны, бледна-нябесны.



Аблягаючыя сукенкі з расклёшанай спадніцай могуць быць як вельмі доўгімі, да пят, так і сярэдняй даўжыні. Празрыстыя тканіны ўпрыгожваюцца карункамі і ўстаўкамі з тканіны іншага колеру. Пад такую небяспечна празрыстую сукенку не забудзьцеся апрануць бодзі адпаведнага колеру.

Калі пахаладае, накіньце на лёгкую сукеначку яшчэ адну модную вялікую дэталь: аксамітны жакет, упрыгожаны вялікімі гузікамі са штучных камянёў, і пышнымі рукавамі крою сярэднявечча.

**Вольга БУКАНАВА,**
**па матэрыялах часопіса «Vogue».**

**У РЭДАКЦЫЮ «ЗВЯЗДЫ»**

Шчыра ўдзячны ўсім, хто ўспомніў пра мяне ў дзень шасцідзесяцігоддзя і прыслаў сяброўскія віншаванні і добрыя пажа-данні.

**Генадзь БУРАЎКІН.**

# ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ЛЮДЗЕЙ

**Як паведамляе газета «Аргументы и факты», сенсацыйным поспехам завяршылася міжнародная экспедыцыя ў Гімалаі пад кіраўніцтвам вядомага уфімскага афтальмолага Эрнста Мулдашава.**

Высока ў гарах была знойдзена пячора, у якой мільёны гадоў ляжаць целы людзей розных цывілізацый. Усе яны знаходзяцца ў стане «сомаці», калі абмен рэчываў зніжаецца да нуля, а цела зацвердзявае і можа захоўвацца бясконца доўга ва ўмовах стабільнай тэмпературы. Гэтыя людзі могуць ажыць і даць пачатак новай цывілізацыі ў выпадку геалагічных катаклізмаў ці самазнішчэння чалавецтва.

Вучоныя неўзабаве разлічваюць сустрэцца з чалавекам, які ўжо пражыў 300 гадоў. Такога ўзросту ён дасягнуў, шмат разоў уваходзячы і выходзячы са стану «сомаці».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 5066.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12